# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 ( 35 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2006 г.


## У НУМАРЫ:



## КРЫЖ



Пакінуць крыж свой і пайсці...
Якое простае рашэнне!
Каму ж той крыж за нас нясці,
калі мы йдзём на адрачэне
ад Беларусі гэтай беднай;
нашто яе праблемы нам,
нашто нам боль яе патрэбны? -
Хай іншыя гаруюць там.
А мы стаміліся, даволі.
Ёсць лепшы край і ціхі дом...
Ды не схавацца нам ад долі -
накрые скрозь яе фантом.
І будзе скрозь яна такая,
якою Бог нас надзяліў.
Сябе ад лёсу не схаваеш,
што б там ні думаў, ні мудрыў.
І крыж пакінуць немагчыма.
Мо толькі зняць на нейкі час...
Бо будзе ўсюды за плячыма
аж покуль не уздыме нас.

*Хрысціна Лялько.*



*Мар'ян Баяровіч (1.01.1933 - 18.08.2006), музыка, паэт, фалькларыст*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 ( 35 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2006 г.

## Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў вывезена на Лідчыну

На падставе пастановы Сакратарыяту ГА "Саюз бела-рускіх пісьменнікаў", пратакол № 5 ад 22 чэрвеня 2006 года кіраўніцтва СБП прыняло рашэнне аб перадачы бібліятэчнага фонду Саюза беларускіх пісьменнікаў аддзелу культуры Лідскага райвыканкаму на доўгатэрміновае захоўванне.

Гэтае рашэнне было выклікана тым, што Саюз беларускіх пісьменнікаў не мае сродкаў, каб аплаціць арэнду ў колісь сваім Доме літаратара памяшкання, якое займала бібліятэка.

13 ліпеня была вывезена першая аўтафура кніг, каля 30 тысяч. 17 жніўня завершана перавозка бібліятэкі. Гэтым разам была вывезена рэшта кніг (каля 10000) і практычна ўся мэбля: стэлажы, шафы, сталы.

На Лідчыне кнігі былі размешчаны ў Доме культуры пасёлка Мінойты, дзе яны будуць чакаць тога часу, пакуль будзе праведзены капітальны рамонт у новым будынку Лідскай цэнтральнай бібліятэкі імя Янкі Купалы, дзе бібліятэка СБП будзе захоўвацца асобным блокам.







***На здымках:*** *пагрузка кніг у Менску 13 ліпеня; разгрузка ў Лідзе 14 ліпеня: пагрузка мэблі ў Менску 17 жніўня.*





**Мы просім ўсіх,
хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі
Ліды і краю, дасылаць іх на адрас:
Ліда-2, п/с 7, або передаваць у рэдакцыю.**

**ПАСВЕДЧАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ № 1342**

**ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ**
**Валеры Сліўкін,**
**старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук**

**РЭДАКТАР**
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 250 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 7**
**Часопіс падпісаны да друку 30. 09. 2006 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 1740 руб.**
**індывід. 6 мес.- 3480 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

# КРОНІКА ЛІДЫ



*Зернесушня вытворчасці “Лідсельмаша”*




*Славуты лідскі камбайн*

30 чэрвеня, 1, 2 і 3 ліпеня ў Лідзе працавала 2-я прамысловая выстава “Ліда-рэгіён-2006”. У працы выставы прынялі ўдзел 60 афіцыйных асобаў з 14 краінаў.



*Новая марка аўтобуса завода “Нёман”*



*Наталля Дабранава*

20 ліпеня выпускніца Лідскай гімназіі №1 Наталля Дабранава пры цэнтралізаваным тэставанні па матэматыцы набрала 100 балаў, адзіны такі паказчык на ўсю Гарадзенскую вобласць.

4 жніўня мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт асвяціў у імя Ўсіх Святых прастол верхняга храма Лідскай царквы святога вялікапакутніка і цаліцеля Панцелеймона.









4 жніўня мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт асвяціў першы камень у падмурак царквы Святога Аляксандра Неўскага ў Новым Паўднёвым гарадку г. Ліды.

6 жніўня 206-я Лідская штурмавая авіябаза як лепшае авіяцыйнае злучэнне атрымала пераходны сімвал "Славянскі меч".



***Выканавец абавязкаў камандзіра 206-й авіябазы А. Зімін прымае меч ад намесніка камандзіра 120-й зрбр А. Булаўкі.***



У жніўні ў Хазенвінкелі (Бельгія) на чэмпіянаце свету па акадэмічным веславанні сярод дзяўчат да 23 гадоў беларуская чацвёрка распашная стала срэбным прызёрам. У складзе экіпажу Алена Махала з Ліды.

*Алена Махала*




У жніўні ўстаноўлена стэла на КПП 206-й Лідскай штурмавой авіябазы.




У жніўні пабачыла свет кніга лідскіх паэтаў Смарагда Сліўко і Святланы Дарошкі “Ад сэрца да сэрца”.




У верасні ў выдавецтве “Канфіда” пабачыла свет кніга ўраджэнкі Лідчыны Хрысціны Лялько “На далонях любові”.



*Марыя Хітрун*

У верасні ў вучаніца Лідскай гімназіі №1 Марыя Хітрун заняла 1-е месца ў рэспубліканскім інтэлектуальным турніры “Свая гульня”.



*Ганна Барташэвіч*

30 верасня “Міс Бярозаўкі” стала Ганна Барташэвіч, вучаніца СШ №3 г. Бярозаўкі.

# Расчыстка сядзібы Ігната Дамейкі ў Заполлі



З 15 жніўня да канца месяца ішлі работы па расчыстцы сядзібы Ігната Дамейкі ў Заполлі Лідскага раёна. У Заполлі, у маёнтку свайго дзядзькі Ігната Дамейкі Ігнат Дамейка-малодшы жыў з канца кастрычніка 1824 года як ссыльны пасля разгрому Таварыства філаматаў. Пражыў ён тут да траўня 1831 года і адгэтуль пайшоў у паўстанне. Гэтыя шэсць гадоў зрабілі Ігната Дамейку лідзянінам, і на Лідчыне яго шануюць, мабыць больш, чым дзе-небудзь яшчэ.

Пасля паўстання маёнтак быў секвестраваны і праз пэўны час перайшоў Антонію Квяткоўскаму, а потым яго дачцы Квяткоўскай-Шалевіч, але тое, што тут жыў Ігнат Дамейка, памяталі заўсёды.

У 1939 годзе чырвонаармейцы разграмілі маёнтак, спалілі кнігі. Пасля вайны тут была школа. Пасля пабудовы школы ў Крупаве ў пачатку 60-х гадоў 20-га стагоддзя сядзібны дом быў парваны трактарамі, бярвенні былі вывезены на будоўлю фермы. Застаўся толькі фудамент, які зарос лесам. 10 гадоў назад перад 1-м з'ездам лідзян сядзібу чысцілі.

Сёлета на сядзібу прыйшлі  маладыя сябры Слабадской суполкі ТБМ г. Ліды. Працавалі ўчатырох: Эдуард Пальчыс, Яўген Сілько, Алег Халявінскі (СШ № 16 г. Ліды), Эдвард Запаснік (г. Масты). Дапамагаў, падказваў і неўпрыкмет кіраваў работамі мясцовы жыхар, 77-гадовы Франц Адамавіч Круглы, бацька якога парабкаваў у апошняй уладальніцы маёнтка Алены Шалевіч і арандатара немца Бэрхмана. Наведваліся на сядзібу і іншыя мясцовыя жыхары.

На сядзібе выразаны дрэвы, высечаны кусты, скошана трава, прыбрана смецце. Праведзены раскоп падвала.

30 жніўня сядзібу наведаў старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук Валеры Сліўкін і правёў абмеры. Паводле меркаванняў В. Сліўкіна ўжо сёння можна гаварыць пра пэўную навуковую значнасць праведзеных работаў. Так абмеры паказалі, што дом быў памерам 15,4х28,4 м. Адназначна можна гаварыць, што дом пасля 1831 года дабудоўваўся (перабудоўваўся) і, мабыць, не адзін раз. Прынамсі апошнія вялікія работы праведзены з ужываннем цэменту і сілікатнай ваўкавыскай цэглы, якая рабілася ў міжваеннай Польшчы.

Прыблізна ўдалося вызначыць старажытную (дамейкаўскую) частку дома. Фундаменты на вапне знаходзяцца пад паўднёвай часткай дома. На складзеным па выніках абмераў плане гэта часткі I і II. У частцы I выяўлены колішнія печышчы і не адно. Па рэштках старажытнай алеі можна сказаць адназначна, што яна вяла якраз да ганка (на плане V).

Калі лічыць, што старажытную сядзібу складалі часткі I і II, то атрымоўваецца, што дом меў тры ўваходы, і хутчэй за ўсё частка I з печышчамі - гэта гаспадарчая частка (кухня), а частка II - жылая.

Выцягнутая архітэктура сядзібы вызначыла кірунак, у якім была праведзена дабудова. Былі дабудованы часткі III і IV, пры гэтым пад часткай III знаходзіцца склеп. Склеп і фундаменты частак III і IV выкананы з ужываннем цыменту.

А як яно было ў першай палове 19-га стагоддзя, можа тут быў іншы склеп, магчыма пад новымі фундаментамі ляжаць старыя. Каб разабрацца з усім гэтым, трэба арганізоўваць паўнавартасныя раскопкі. Нажаль, не вядомы ніякія малюнкі ці гравюры з той пары. Канешне ёсць дом Дамейкаў у Жыбуртоўшчыне Дзятлаўскага








раёна, які можа служыць узорам, але толькі ўзорам. Парадаксальна, але факт, лідскім краязнаўцам да гэтага часу не ўдалося знайсці ніводнага здымка сядзібы ў Заполлі, хаця да пачатку 60-х гадоў 20-га стагоддзя тут была школа, і здымкаў, здаецца, павінна быць шмат і ў выпускнікоў, і ў настаўнікаў, аж няма, прынамсі, пакуль. Аднак дадаўшы да вынікаў абмераў аповеды тутэйшых насельнікаў агульны малюнак ужо можна ўявіць.

Паводле аповядаў таго ж Франца Круглага дом у XX стагоддзі быў двухпавярховым. З цэнтральнага ганка ўваходзілі ў вялікія сенцы (там захавалася бетонная падлога).

Паміж часткамі II і IV быў калідор, з якога паліліся стаякі (галандскія печкі), пры гэтым кожны стаяк абагравaў два пакоі. Абсалютна так, як і Жыбуртоўшчыне, хаця гэта адпавядае агульным прынцыпам рацыянальнасці, і Жыбуртоўшчына можа быць не пры чым.

І ў выніку высnова з праведзеных работаў адна: без прафесійных раскопак тут не абысціся, асабліва, калі гаворка ідзе пра перспектыву аднаўлення сядзібы Дамейкаў менавіта ўзору першай паловы XIX стагоддзя.

***Станіслаў Суднік.***

***На здымках:*** *1. Эдуард Пальчыс, Яўген Сілько, Алег Халявінскі, Эдвард Запаснік, Франц Адамавіч Круглы; 2. Расчышчаны склеп з раскопам. 3. Кандыдат геаграфічных навук Валеры Сліўкін і сябры ТБМ Эдуард Пальчыс, Алег Халявінскі ды Эдвард Запаснік праводзяць абмер сядзібы. 4. План сядзібы, складзены Валерыем Сліўкіным паводле абмераў.*

# Кроніка айкумены

*Лідскі гістарычны каляндар*

## ліпень – верасень

**1406 год, 5 жніўня.** Наезд на Ліду аддзелу смаленскага князя Юрыя Святаслававіча. Спаленне горада і касцёла.

**1406 год, жнівень, 600 гадоў назад.** Першае згадванне сёлаў Голдава і Сялец.

**1496-1501 гады.** Намеснікам Лідскім быў Станіслаў Пятровіч Кішка, стольнік літоўскі з 1491 г., пасол Вялікага князя Аляксандра ў Маскву ў 1490 і 1495 гг., маршалак дворны ў 1493-1499 гг.

**1506 год, ліпень.** У Лідзе абвешчаны збор паспалітага рушэння. Татарскія аддзелы рабуюць і паляць паселішчы паўднёвай Лідчыны: Беліцу, Жалудок, Збляны, Дакудава...

**1506 год, ліпень.** Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аляксандр і яго жонка Алена Іяанаўна прыбылі ў Ліду.

**1506 год, 24 ліпеня.** Смяротна хворы Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аляксандр у пакоях Лідскага замка паспавядаўся, прычасціўся і падпісаў духоўны тастамант.

**1506 год, 27 ліпеня.** Паралізаванага Вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра ў суправаджэнні жонкі Алены Іяанаўны, біскупа Войцаха Табара, намесніка гарадзенскага і ваўкавыскага Яна Юр'евіча Заберазінскага вывезлі ў Вільню.

**1506 год, пачатак жніўня.** Народнае апалчэнне на чале з вялікім гетманам Станіславам Пятровічам Кішкам і маршалкам дворным Міхаілам Львовічам Глінскім выйшла з Ліды.

**1506 год, 5 жніўня.** Пераможная бітва пад Клецкам. Апалчэнне пад камандаваннем маршалка дворнага Міхаіла Глінскага разграміла перакопскіх (крымскіх) татараў.



*Вялікі князь Аляксандр*

У ліпені 1506 г. 20-тысячная Перакопская арда пад началам Біці-Гірэя і Бурнаш-Салтана раптам уварвалася ў межы ВКЛ, разрабавала Мазыр і Слуцк і спынілася галоўным табарам у наваколлі Клецка. Паведамленне аб нашэсці было атрымана ў Вільні тады, калі перадавыя аддзелы татараў з'явіліся на берагах Нёмана. Хворы Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аляксандр абвясціў паспалітае рушэнне (народнае апалчэнне). Месцам збору была прызначана Ліда. Апалчэнне збіралася марудна - з'ехаліся 3 тысячы шляхціцаў, але выступаць супраць татараў яны не жадалі, патрабуючы, каб на чале апалчэння стаў кароль. Цалкам хворы Аляксандр змушаны быў выехаць у Ліду ў суправаджэнні жонкі Алены Іяанаўны.

З прыездам караля апалчэнне павялічылася яшчэ на 4 тысячы, але камандаваць апалчэннем Аляксандр ужо не мог- ён цалкам знясілеў. 24 ліпеня 1506 г. у пакоях Лідскага замка кароль Аляксандр

паспавядаўся, прычасціўся і падпісаў духоўны тастамант. Пры гэтым прысутнічалі найбуйныя магнаты і прадстаўнікі дробнамаянтковай шляхты.

Тым часам татарскія аддзелы пераправіліся на правы бераг Нёмана і пачалі рабаваць і паліць селішчы паўднёвай часткі Лідчыны - **Дакудава, Беліцу, Збляны**: *"Татарове пришедши к Новгородку и скоро пришли за Немон (Нёман) и не доходячи Лиды, около города, от всих сторон в мили и в полумили от города, воевали церкви божие и дворы великие, и веси зажигали, и людей имали и забивали».* Адзін з ліцвінскіх раз'ездаў сустрэў на рабаванні аддзел татараў, *"божию милостью побили их, неколько живых поймали, а иных головы отсекаючи в тайстра клали."*



***Бітва пад Клецкам***

Блізкасць татараў вымусіла атачэнне караля прыняць рашэнне аб вяртанні яго ў сталіцу. Паралізаванага Аляксандра паклалі ў калыску, падвешаную паміж сёдламі двух коней, і ў суправаджэнні вялікай княгіні Алены Іяанаўны, біскупа Войцаха Табара, канцлера Яна Ласкага, намесніка гарадзенскага і ваўкавыскага Яна Заберазінскага і невялікага вайсковага аддзелу ранняй раніцай 27 ліпеня выправілі ў Вільню.

У першыя дні жніўня апалчэнне - *"десять тысячей людей перебраных, конных, и збройных"* выступіла з Ліды на чале з вялікім гетманам Станіславам Пятровічам Кішкам і маршалкам дворным князем Міхаілам Львовічам Глінскім. Станіслаў Кішка перад бітвай захварэў, кіраваў бітвай Міхаіл Глінскі. У кровапралітнай бітве на р. Лань пад Клецкам 5 жніўня 1506 г. татары былі ўшчэнт пабітыя: *"В стов пост татар побила литва под Клецком, а етманом был в той битве князь Михайло Глинской".*

Быў знішчаны ўвесь татарскі лагер, *"около 20 тысяч трупов положил, закрасил их кровью прилежащий пруд, который с тех пор Красным прудом стал называться".* Радасная вестка аб першай сур'ёзнай перамозе над перакопскімі татарамі заспела караля Аляксандра яшчэ жывым: ён не мог гаварыць, толькі мігамі выказаў сваю радасць. У ноч на 20 жніўня кароль памёр.

Караля Аляксандра пахавалі не ў Кракаве - побач з дзедам, бацькам і братам, а ў Віленскім кафедральным саборы. Аляксандр - адзіны польскі кароль пахаваны ў Вільні.

**1506 год, 2 верасня.** Кароль Жыгімонт пацвердзіў прывілеем атрыманне кіеўскім і пуціўльскім дваранінам Міхаілам Гагіным Мажэйкаўскага двара і надаў Мажэйкаўскаму двару Біікушскі дварэц (невялікі двор).

**1696 год, 29 жніўня.** Прынята пастанова Ўсеагульнай канфедэрацыі станаў Рэчы Паспалітай аб складанні ў ВКЛ усіх рашэнняў толькі на польскай мове

**1706 год, верасень.** Па ўмовах Альтранштадтскага міру Аўгуст II адмовіўся ад кароны Рэчы Паспалітай на карысць Станіслава Ляшчынскага.

**1736 год.** У Балотным (Блотна, Веранова) Сцыпіёны дэль Кампа адчынілі школу піяраў.

**1796 год, 8 жніўня.** Ліда вызначаная павятовым цэнтрам Слонімскай губерні (намесніцтва) Літоўскага генерал-губернатарства.




***Герб Сцыпіёнаў дэль Кампа, старастаў Лідскіх не ў адным пакаленні***

**1856 год, восень.** Пры Голдаўскай царкве святар Канстанцін Самсонавіч Брэн адчыніў народную вучэльню (першую ў павеце).

**1886 год.** У часопісе "Край" Багушэвіч апублікаваў артыкул, у якім распавядаў, што на Лідчыне гэтак жа, як і ў суседніх паветах, усхадзілася матыліца, ад якой загінула шмат жывёлы (авечак).

Адчыненая школа пісьменства ў Буцілах ад Дзікушскага прыходу.

Маёнтак Дамейкі пасля смерці Антонія Квяткоўскага пераняла яго дачка Алена Шалевіч.

**1896 год, 13 жніўня.** Столе і Краеўскі паведамляюць Віленскаму губернскаму кіраванню: "Паравы шкляны завод на зямлі Ганны Смальян у маёнтку Магадзіно намі ўсталяваны канчаткова". Была пабудаваная 12-гаршковая шкловарная печ са здымам шкломасы 4200 кг/суткі. У цэху апрацоўкі быў пантограф, 5 гільяшырных машын, пескаструменевы апарат і розныя шліфавальныя станкі.

**1896 год.** Адчынена першая і адзіная Дзікушская жаночая народная вучэльня.

У Дакудаўскай народнай вучэльні вучыліся 15 дзяўчынак.

У Вялікіх Канюшанах ад Гончарского прыходу адчынена школа пісьменства.

У Радзівонішках і Бабрах збудаваны школьныя будынкі.

**1896-1900 гады.** Ліду неаднаразова наведваў Ф. Э. Дзяржынскі.



*Ф.Э. Дзяржынскі*

**1906 год.** У Лідскай жаночай вучэльні адчынены пяты клас, і янаператворана ў прагімназію.

**1926 год. 26 верасня.** У Лідзе адбыўся павятовы з'езд Грамады. У яго працы прынялі ўдзел 100 дэлегатаў. Старшынём абраны Вікенці Антонавіч Салыга.

**1936 год, 13 ліпеня.** У Лідзе прайшоў усеагульны штрайк у знак пратэсту супраць крывавай расправы над страйкаваўшымі працоўнымі шклозавода "Нёман". Дырэкцыя завода пайшла на саступкі.

**1936 год, жнівень.** Выйшаў з друку першы даведнік па Лідскім і Шчучынскім паветах прэзідэнта мясцовага аддзела ПТТК Антонія Гржымайлы-Прыбыткі.

**1936 год.** Пабудаваны будынак СШ № 10.

**1936 год.** 3-класная сумеснага навучання гандлёвая піярская школа з чацвёртым адмысловым класам атрымала назву - Купецкая гімназія.

Пабудаваная Кянцеўская школа. Настаўніцай была Гарбінова. Ставіла спектаклі на беларускай мове, паставіла "Паўлінку".

**1946 год, 10 жніўня.** Адбылася другая гарадская парканферэнцыя. Партарганізацыя Ліды налічала 247 членаў і 113 кандыдатаў

**Жнівень.** Заснаваная Лідская нафтабаза. Размяшчалася на пляцоўцы пры чыгунцы поруч Нарыхтзбожжа. Забяспечвала спажыўцоў бензінам маркі А-56 і насельніцтва асвятляльнай газай.

**Жнівень.** Кантынгент 24463 чалавекі.

**1946 год. 29 жніўня.** Прынята рашэнне аб адкрыцці пачатковай школы № 4 на вул. Лётнай, 1.

**16 верасня.** Прынята рашэнне выканкаму прысвоіць гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы.

**16 верасня.** У Ліду прыехала брыгада пісьменнікаў і навуковых супрацоўнікаў - дырэктар музея Я. Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, П. Глебка, У. Агіевіч, В. Таўлай на ўрачысты акт прысваення гарадской бібліятэцы імя Я. Купалы.

**17 верасня.** Сустрэча брыгады са студэнтамі і выкладчыкамі педвучэльні. Даклад

“Ідэя аб’яднання народа ў беларускай паэзіі”. П. Глебка зрабіў агляд вершаў маладых паэтаў, даў парады. П. Глебка і В. Таўлай чыталі свае вершы. Прачытаў свае вершы паэт-пачатковец Мікалай Воронін. Увечар адбылося ўрачыстае паседжанне гарвыканкаму разам з партыйнай і грамадскімі арганізацыямі горада ў сувязі з 7-й гадавінай аб’яднання Беларусі.

**18 верасня.** Агульнагарадскі ўрачысты збор, прысвечаны прысваенню гарадской бібліятэцы імя Я. Купалы. Сабраліся працоўныя, службоўцы, настаўнікі, вучні старэйшых класаў У. Агіевіч выступіў з дакладам “Я. Купала - народны паэт БССР”. В. Таўлай прачытаў свой верш прысвечаны памяці Я. Купалы і дню 17 верасня. П. Глебка прачытаў верш і паэму “Пра вясну і рэвалюцыю”, У. Ф. Луцэвіч падзялілася ўспамінамі. Ад калектыва бібліятэкі загадчыца Таццяна Мыгланава падзякавала і запэўніла, што бібліятэка будзе годна несці імя Народнага песняра.

**1946 год, 23 верасня.** Бандай “Дурыса” па-зверску перабітая сям’я старшыні Цвермскага сельсавета Кавальчука Ў.Ф. і ўпаўнаважаныя Бей С.С. і Стрыбуць Б.І.

**1956 год, 16 ліпеня.** Прынята рашэнне гарвыканкаму аб передачы інтэрната тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі пад СШ № 2.

**1956 год, жнівень.** З 3606 вучняў не паспявалі 406. 1-4 класы 1547/116, 5-7 кл 833/164, 8-10 кл 491/41. З 2871 вучня па рускай мове не паспяваюць 184, па матэматыцы - 229, па беларускай мове - 72. 10-ты клас скончылі 180 вучняў. Прадстаўленыя да ўзнагарод і медаляў 21 вучань (з дакладу заг. ГарАНА за 1955/56 навуч. год).

**1956 год, 1 верасня.** Старшынём камітэту фізкультуры і спорту прызначаны Ядэшка Ўладзімір Лявонцевіч.

**1956 год, 1 верасня.** Адчынілася школа- інтэрнат на 210 месцаў.



***Закладка Кургана Неўміручасці 9 траўня 1966 г.***

**1966 год, 8 ліпеня.** Адкрыццё Кургана Неўміручасці.

**1966 год.** Нёманская школа стала сярэдняй.

**1976 год, 7 жніўня.** Лідскі піваварны завод адзначыў стагоддзе і ўзнагароджаны ордэнам “Знак Пашаны”.




***Уручэнне ордэна “Знак пашаны” Лідскаму піўзаводу***

**1976 год, 29 жніўня.** Адбылося традыцыйнае свята працы на пляцы Леніна. Выступілі Ў. Логаш, Б. Грыцэнка, дэлегат XXУ з’езду КПСС рабочы лакафарбавага завода Г. Азаронак, рабочая абутковай фабрыкі Г. Леcановіч, рабочы завода “Лідсельмаш” М. Вушка. Чырвоны сцяг падымалі дырэктар завода “Лідсельмаш” М. Кашынскі, сакратар парткаму завода электравырабаў М.Астраверхаў, рабочая піўзавода Н. Яцкевіч, брыгадзір дыстанцыі каляі Ў. Бяляўскі, рабочая абутковай фабрыкі Л. Круковіч. На пастаменце славы стаялі шліфавальшчык завода “Лідсельмаш” У. Катлінскі, зваршчык аўтарэмзавода П. Авяр’янаў, электрамеханік вузла сувязі М. Турчэнік і інш.

**1996 год, 17 ліпеня.** Са сцяны былога планетарыя, перададзенага праваслаўным, знятая мемарыяльная дошка ў гонар Людвіка Нарбута.

# Лідскія юбіляры 2006 года

**МАКРЭЦКІ Адам Вінцэнт** (16.08.1856 - 6.04.1921). Нарадзіўся ў маёнтку Дзітрыкі Белагрудскай воласці. Скончыў вайсковую школу ў 1877 г., падпаручнік, удзельнік руска-турэцкай вайны. У 1914 г. палкоўнік, камандзір палка. Крыж Святога Георгія. Генерал расійскага войска. У 1918 г. уступіў у корпус генерала Доўбар-Мусніцкага. Вярнуўся ў Дзітрыкі. Кіраўнік II групы Віленскай самаабароны са штабам у Лідзе. Камендант Вільні. Узяў Слонім, Баранавічы, Нясвіж (1919). Камандзір 1-й Літоўска-Беларускай дывізіі. Узяў Слуцк і Клецк (1920). У пачатку 1921 г. генерал брыгады польскага войска. Памёр у Гародні.

Яго дачкой была **Каміла Ланге**. Напісала паэму “Rok 1919”. Дапамагла камдзіву чырвонай дывізіі перайсці на польскі бок.

**ПАШКЕВІЧ** (у замужжы Кейрыс) **Алаіза Сцяпанаўна** (“Цётка”) [3(15).07.1876-5(18).02.1916]. Беларуская грамадская дзяячка, асветніца, пісьменніца, артыстка тэатра, педагог, выдавец.



*Алаіза Пашкевіч (Цётка)*

Нарадзілася ў фальварку Песчына Лідскага павету (цяпер Шчучынскі раён) у багатай сялянскай сям’і. Бацька - Стэфан меў пяць дочак і двух сыноў, Алаіза названая ў гонар бацькавай маці, была 4-ай. Дзяцінства прайшло ў фальварку Тарэсін (1879-85) у Старым Двары ў дзядулі і бабулі, дзе вучылася ў хатняй настаўніцы. Скончыла ў Вільні прыватную 7-класную вучэльню (1901). Настаўнічала на вёсцы. Удзельнічала ў стварэнні Беларускай Сацыялістычнай Грамады (1902), выданні часопіса “Свабода” (1902). Вучылася на Вышэйшых Агульнаадукацыйных курсах П. Лестгафта ў Пецярбурзе (1902-04), здала экстэрнам іспыт за курс гімназіі. Працавала фельчарам у Новавілейскай псіхіятрычнай лякарні. Удзельнічала ў з’ездзе жанчын у Маскве (1905). Вяла агітацыю супраць самадзяржаўя. Аддадзеная пад суд, эмігравала ў Галіцыю. Вучылася як вольная слухачка на філасофскім факультэце Львоўскага ўніверсітэта (1906-08, 10-11), на гуманітарным факультэце Кракаўскага ўніверсітэта (1908-09). Прыязджала ў Вільню і Пецярбург, у Вільні ўдзельнічала ў выданні газеты “Наша доля” і “Наша ніва”. Падарожнічала па Італіі (1908). Лячылася ў Закапанэ. Замуж выйшла ў 1911 г. З 1911 г. у Вільні, Менску. Была артысткай тэатра І. Буйніцкага - выступала ў спектаклях “Па рэвізіі” М. Крапіўніцкага, “У зімовы вечар” па Э. Ажэшка. Арганізоўвала таемныя, з 1915 г. легальныя беларускія школы (каля Вільні, у Лідскім павеце), вучыла дзяцей. Першую нелегальную беларускую школу на тэрыторыі сучаснай Беларусі адкрыла ў Лідзе ў 1912 г., першую легальную беларускую школу на тэрыторыі сучаснай Беларусі адкрыла таксама ў Лідзе ў 1915 г. Выдавала ў Менску часопіс для дзяцей і моладзі “Лучынка” (1914). Падарожнічала па Скандынавіі. У 1915 г.- фельчар у тыфозным салдацкім бараку ў Вільні. У пачатку 1916 г. прыехала ў родныя мясцы, дзе лячыла хворых тыфам. Бацька памёр у студзені 1916 г. у лякарні ў Лідзе, пахаваны на Лідскіх каталіцкіх могілках.

Публікавалася з 1902 г. Пісала вершы, аповесці, публіцыстычныя і этнаграфічныя артыкулы, апавяды аб прыродзе, даследавала беларускі народны тэатр. Асобнымі ўлёткамі выдаваліся ў 1905 г. яе вершы “Мору”, “Пад штандарам”, “Хрэст на свабоду”. Выдала ў Жолкве каля Львова зборнікі вершаў “Хрэст на свабоду” (1906), “Скрыпка беларуская” (1906), зборнік перакладаў з украінскай “Гасцінец для малых дзяцей” (1906). У Пецярбурзе выйшла яе “Першае чытанне для дзетак беларусаў” (1906). Выпусціла “Праграму для збірання матэрыялаў аб батлейках на Беларусі” (Вільня, 1910). У рукапісу застаўся яе “Малітоўнік для беларускіх дзетак”.

**РЫДЗ - СМІГЛЫ Эдвард** (1886-1941), **ганаровы грамадзянін г. Ліды**, маршал Польшчы, палітык. Выпускнік ASP у Кракаве, з 1908 г. у Саюзе Актыўнай Барацьбы, з 1912 г. у Саюзе Стральцоў, блізкі паплечнік Ю. Пілсудскага, рэдактар штомесячніка “Стралец”; падчас 1-й Сусветнай вайны ў Польскіх легіёнах- камандзір 1-га палка пяхоты, з верасня 1915 г. - 1-й брыгады, камендант Gl. POW; з лістапада 1918 г. у Войску Польскім, у лістападзе абраны міністрам абароны, таксама камендантам польскіх войскаў падчас Народнага Ўраду Рэчы Паспалітай у Любліне, затым камендант Генеральнай Акругі Люблін, студзень-красавік 1919 - камандзір аперацыйнай групы Ковель, красавік 1919- красавік 1920 адбіў Вільню, разам з літоўскім войскам Дынабург; 1919- генерал брані (роду войскаў). У польска-бальшавіцкай вайне камандзір 3-й арміі. 7.05.1920 заняў Кіеў, 7-15.08.1920 кіраваў Сярэднім фронтам (ад Дэмбліна да Бродаў), 16.08.1920- разбіў 16-ю чырвоную армію, з 18.08.1920 - камандзір 2-й арміі

(20-28.09 бітва над Нёманам). З 15.09.1922 інспектар войска з сядзібай у Вільні, з 1926 г. у Варшаве, у час травеньскага перавароту 1926 г. падтрымаў Пілсудскага, даслаўшы яму частку віленскай залогі. З траўня 1935 г. генеральны інспектар Узброеных Сілаў, з 1936 г. маршал Польшчы, выконваў таксама шмат грамадскіх функцый у арганізацыях вайскоўцаў і камбатанцкіх. Пасля 1935 г. пачаў працу над 6-гадовым планам мадэрнізацыі Ўзброеных Сілаў, таксама канцэпцыяй польскай ваеннай дактрыны, у вераснёвай кампаніі 1939 г. Вярхоўны Галоўнакамандуючы. 17 верасня 1939 г. перайшоў у Румынію, інтэрнаваны. 7 лістапада склаў свае паўнамоцтвы. У 1941 таемна вярнуўся ў Польшчу, памёр пад імем Адам Завіша.



*Ганаровы грамадзянін г. Ліды Эдвард Рыдз-Сміглы*

**САСНОЎСКІ Роберт Юр'евіч** (14.10.1916 - 10.02.2003, г. Ліда). Нарадзіўся ў рабочым пасёлку Янкоўка Кіеўскай вобласці. Украінец. З службоўцаў. Скончыў Кіеўскі дзяржаўны ўніверсітэт, фізіка-матэматычны факультэт (1.09.1932-30.07.1937), спецыяльнасць-выкладчык фізікі.

Працоўная дзейнасць:

1.09.37-1.08.38 - выкладчык фізікі ў СШ ст. Альмовіца (Альшакіна) Кіеўскай вобласці;

1.09.38- 1.10.39 - лабараторыя эксперыментальнай фізікі пры Кіеўскім педінстытуце;

14.10.39-10.07.41- служба ў РККА, Омск- Навасібірск- Каўнас, вайсковы інжынер па абаронных будынках, але склад сяржанцкі;

10.07.41-4.09.41- ваеннапалонны ў лагеры Магодзіна і ў Лідзе. У палон патрапіў пры акружэнні на Заходняй Дзвіне. 4.09.1941 збег.

4.09.41-1.05.42 - грузчык Лідскага вугальнага склада. У траўні 1942 г. арганізаваў на Лідскім чыгуначным вузле дыверсійную групу, падарваў электрастанцыю ў Лідскім дэпо.

12.03.43- 8.07.44 - партызан атрада "Іскра", начальнік асобага аддзела атрада "Іскра".

Валодаў польскай і ўкраінскай мовамі добра, нямецкай - слаба.

15.08.44 - старшыня планавай камісіі Лідскага гарвыканкаму;

4.1.1947 - галоўны інжынер гаркамгасу Лідскага гарвыканкаму;

1.4.1955 - інжынер па тэхкантролю будаўніцтва сярэдняй школы;

28.11.1955 - дзясятнік-майстар Лідскага піўзавода;

16.07.1957 - галоўны інжынер камунальнага аддзела Лідскага гаркамгасу;

4.3.1960 - інжынер групы капрамонту Гарадзенскага аблпраекту;

25.4.1961 - кіраўнік групы па капрамонту г. Ліды.

1.6.1966 Гарадзенскі аблпраект пераіменаваны ў Гарадзенскія абласныя праектныя майстэрні. Р. Сасноўскі прызначаны кіраўніком групы капрамонту ў г. Лідзе;

1.3.1968 - галоўны інжынер інстытута "Белрамбудпраекту";

1.7.1969 - начальнік сектара "Белжылпраекту";

1.1.1974 - начальнік Лідскага сектара інстытута "Белжылпраект" Мінкамгасу БССР.

15.10.1976 г. выйшаў на пенсію.

Узнагароджаны медалямі "Партызан Айчыннай вайны 1 ступені", "За перамогу над Германіяй", "За доблесную працу".



*Роберт Сасноўскі*

**СЛУК Вацлаў Дамінікавіч** (7.09.1926 - 23.12.2004). Нарадзіўся у в. Паддубна Лідскага павету ў сям'і парабка, з малых гадоў разам з бацькамі, якія мелі слабое здароўе, пасвіў жывёлу ў багатых сялян. 1944-48 працаваў у дапаможнай гаспадарцы ваенгандлю ў в. Тарнова. Конюх 1947-1958, з 1958 г.- даглядчык па адкорму буйной рагатай жывёлы саўгаса "Тарнова".

Герой Сацыялістычнай Працы (22. 03.1966), неаднаразова абіраўся дэпутатам раённага і абласнога Савета дэпутатаў, член райкаму партыі. У 1968 г. занесены ў кнігу Народнай Славы раёна.



*Вацлаў Слук*

# Жыў у Лідзе свой Напалеон

## *140 гадоў з дня нараджэння Напалеона Чарноцкага*

***ЧАРНОЦКІ Напалеон Казіміравіч*** *(13.07.1866 - 14.02.1937). Жыў у Лідзе і працаваў лекарам у 1931-1936 гг., беларускі публіцыст, перакладчык, адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху.*

*Нарадзіўся ў маёнтку Нача-Бryндоўская - цяпер в. Нача Ляхавіцкага раёна. Скончыў Слуцкую гімназію (1887), медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта (1894). У Слуцкай гімназіі ўваходзіў у таемны гурток самаадукацыі, у Маскве - у інтэрнацыянальную студэнцкую арганізацыю, удзельнічаў у рэвалюцыйным руху. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях 1890 г. выключаны з універсітэта і сасланы пад нагляд паліцыі ў маёнтак бацькоў, праз год аднавіўся ва універсітэце. Працаваў лекарам у Заходняй Беларусі і Літве. У 1904-05 гг. мабілізаваны на Манчжурскі фронт. У 1908-12 гг. у эміграцыі ў Канадзе. З 1918 г. у Варшаве, пасля ў Вільні. У 1922 г. уступіў у Польскую сацыялістычную партыю. З 1928 г. працаваў лекарам на Валыні, з 1931 г. - у Лідзе. З 1936 г. жыў у в. Вялікая Лябёдка Шчучынскага раёна.*

*У 1885 г. у Слуцку ўдзельнічаў у перакладзе на беларускую мову і выданні на гектографе першага варыянту рэвалюцыйнай брашуры “Дзядзька Антон” (не выяўлена). Браў удзел у выданні 2-га варыянту (1892, з М. Абрамовічам). Перапісваўся з У. Караленкам, на польскую мову пераклаў яго аповяд “ У дрэннай кампаніі” (каля 1887 г., не выяўлены, захаваліся два лісты Чарноцкага да пісьменніка). У 1910 г. выдадзеныя ў яго перакладзе на беларускую мову п’есы “Сватаўство” А. Чэхава і “Пашыліся ў дурні” М. Крапіўніцкага. Аўтар брашуры “Як будзе з зямлёю?” (1907). У артыкуле “Ды пытання пра беларускую народную школу” (газета “Мінскі кур’ер”, 10 красавіка 1908 г.) выступіў у абарону беларускай мовы. У “Нашай ніве” 21 чэрвеня 1912 г. змясціў допіс “З Канады”. Аўтар успамінаў пра рэвалюцыйны рух і пра Абрамовіча. Зрабіў апісанне батлеечнага прадстаўлення “Батлейкі з ваколіц Начы” (уключана ў кнігу “Народны тэатр”, Мн., 1983).*



***Напалеон Чарноцкі***

(Паводле “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі” і “Беларускай энцыклапедыі”.)

***Аляксандр Снежка***

# Доктар Напалеон Чарноцкі

У маёнтку Вялікая Лябёдка павету Шчучын Наваградскі ціха, амаль непрыкметна пакінуў гэты свет цікавы і заслужаны чалавек. Некралогі ў прэсе паведамілі агульна і кароценька, што 14 лютага 1937 года памёр Напалеон Чарноцкі ў веку 71 года, і што пахаванне адбылося 17 дня бягучага месяца ў Скрыбаўцах.

Аднак доктар Напалеон Чарноцкі заслугоўвае на больш трывалую памяць з боку грамадства, якое ашаломленае вірам сучаснага жыцця, забывае пра людзей старых і даўнейшых, якім не раз былі вельмі ўдзячныя. Народжаны 13 ліпеня 1866 года ў Наваградскім ваяводстве ў радавым маёнтку Нача (Баранавіцкі пав.) у старой польскай патрыятычнай сям’і. Гімназічную навуку чэрпаў у Слуцку.

Пасля атрымання сярэдняй адукацыі паступіў на лекарскі факультэт у Маскве, які скончыў 13 лютага 1895 г. Захоплены прыродазнаўчымі навукамі, выбраў медыцыну таму, што

прафесія лекара падавалася яму найбольш прыдатнай у службе для дабра людзей, якім прысвяціў пазней усё сваё наватарскае жыццё.

Пасля заканчэння універсітэта, распачаўшы працу лекара, Напалеон Чарноцкі, як прыхільнік польскага незалежніцкага руху, кіраванага Юзафам Пільсудскім, аказаў важную паслугу першай друкарні “Robotnika”. Сведчаннем таго, як гэта сталася, хай паслужаць уласныя словы доктара Чарноцкага, запісаныя ў памятнай кнізе ППС (Польскай сацыялістычнай партыі): *“... калі мы з жонкай, - піша Чарноцкі, - сабраліся выехаць у радавы маёнтак Нача, а потым на практыку недзе ў сваіх краях, Сулкевіч паведаміў мне, што павінен даверыць мне таямніцу ППС і хоча папрасіць у сувязі з ёю дапамогі. Адказаў, што згодны, пры ўмове, што і мая жонка мусіць быць пасвечана. С. умову прыняў. Пасля гэтага я даведаўся, што мой слуцкі калега Парнеўскі, які меўся быць ксендзам, але адмовіўся з-за адсутнасці магчымасці дасягнення тога становішча ў цяжкія часы, ад свайго паклікання, а толькі скончыў у Маскве фармацэўтычны факультэт, заснаваў па даручэнні ППС у мястэчку Ліпнішкі аптэку для таго, каб даць спакойны прытулак друкарні “Robotnika” і яе рэдактару Пілсудскаму. Акрамя рэдактара быў яшчэ наборшчык, варшавяк. Паводле словаў Сулкевіча, легкадумны варшавяк, прыгавораны да смяртэльнай нуды ў друкарні-аптэцы, збаламуціў не вельмі маладую і непрыгожую кухарку аптэкара, абяцаючы з ёю ажаніцца. Праз некаторы час захацеў ад тога абяцання адступіцца. Каханка пачала здагадвацца, што тут хаваецца нейкая таямніца, і што яна мае праз гэта свайго каханка ў руцэ, і пачала злёгку пагражаць. Трэба было справу ліквідаваць, пакуль быў час.”* Пані Парнеўская неўзабаве павезла служанку ў Чанстахоў да споведзі, а тым часам Міхал Сулкевіч з Напалеонам Чарноцкім прыступілі да ліквідацыі друкарні “Robotnika”. Два вялікія кашы, у якіх былі старанна спакаваны друкарская машына і шрыфты, былі ноччу здадзены як багаж да чыгуначнай станцыі Пагарэльцы (на адрэзку Баранавічы - Стоўбцы), адкуль Напалеон Чарноцкі забраў іх як асабісты багаж у сваё радавое гняздо - Начу, а пазней перавёз на першы этап сваёй лекарскай практыкі ў Мір. У Міры доктар Чарноцкі хаваў друкарню некалькі месяцаў, пакуль яе не забраў у Вільню будучы прэзідэнт Станіслаў Вайцяхоўскі.

Напалеон Чарноцкі як сацыяльны лекар, практыкаваўшы ў Міры (Стаўбцоўскі павет), неўзабаве пераканаўся ў нікчэмнасці экстранных лекарскіх парадаў і санаторнага лячэння, недаступнага для незаможных пацыентаў, якія жывуць у дрэнных гігіенічных умовах.

Ён насіцца з намерам стварэння для іх курортаў. На адным з лекарскіх з’ездаў доктар Чарноцкі выступае са смелым праектам стварэння для незаможных санаторных пунктаў, дзе падставай лячэння мела быць: адпачынак, шмат чыстага паветра і сонца, а таксама добрае харчаванне. Гэты праект атрымаў прызнанне і чынную падтрымку з боку лекараў. Былі знойдзены месца і супольнікі, здольныя ўнесці немалыя сродкі для пачатку працы. Нажаль, уся гэтая акцыя не дайшла да рэалізацыі. Перашкодай гэтаму стала расійска-японская вайна, і доктар Чарноцкі накіроўваецца на Далёкі Ўсход у якасці вайсковага лекара. Пасля вайны, атрымаўшы за сваю частку радавога маёнтка, невялікі капітал, Чарноцкі выехаў у Паўночную Амерыку з задумай стварэння там “грамадскага санаторыя”. Нешта кшталту адпачынкавай калоніі для людзей ідэйных, якія працуюць палітычна або на грамадскай ніве, якія жывучы ў ненармальных умовах у краі, падарвалі сваё здароўе. У Канадзе Чарноцкі купляе вялікі кавалак зямлі, на якой працуе некалькі гадоў як звычайны фермер па вырошчванні розных гатункаў лекавых траў і раслін. У гэтай працы ён не перастае думаць пра ажыццяўленне сваіх планаў. Аднак спазнаўшы асабістыя матэрыяльныя цяжкасці вяртаецца ў край перад самым выбухам 1-й Сусветнай вайны. І тут зноў як лекар прызываецца на службу ў войска.

Пасля перамогі маршала Пілсудскага над бальшавікамі і ўваходу польскіх войскаў на вялікдзень 1919 года ў Вільню і пасля ўтварэння там Ураду ўсходніх зямель генеральны камісар тога ўраду пан Ежы Асмалоўскі прызначае доктара Чарноцкага на пасаду старшага рэферэнта санітарнага аддзела. Гэтую пасаду ён займае да траўня 1920 г. Пасля эвакуацыі ўраду перад бальшавіцкай навалай некалькі месяцаў працуе ў Шахцёрскай Дуброве (Dabrowie Gorniczaj). Пасля заканчэння вайны і заключэнні міру ў Рызе доктар Чарноцкі займаецца ў родных мясцінах сацыяльнай медыцынай і натуральным лячэннем.

З 1921 па 1928 працуе лекарам Бальнічных касаў горада Вільні, пасля гэтага на Валыні ў цэнтры Крамянецкіх бальнічных касаў. Перад ад’ездам з Вільні доктар Чарноцкі змясціў у “Zrodlach Mocy” (“Крыніцах сілы”, № 3 - 1928 г.) цікавы рэгіянальны артыкул пад назвай “Батлейкі з ваколіц Начы”, заснаваны на асабістых ўспамінах і замілаванні да радзімага краю.

З 1 лютага 1932 года доктар Чарноцкі заняў пасаду Галоўнага лекара ў Сацыяльнай страхавой касе ў Лідзе, дзе карыстаўся агульнай сімпатыяй, як сярод персаналу касы, так і ў грамадстве.

Хто з лідзян не памятае ціхага, прыветнага, з анёльскай дабрынёй сэрца сацыяльнага доктара? Трэба яшчэ сказаць, што доктар Чарноцкі вёў у нашым горадзе кавалерскі (халасты) лад жыцця. Таму сталыя наведвальнікі вядомай прыватнай сталоўкі паняў Васькоўскай і Міцкевічавай мелі магчымасць бачыць яго ў сваёй

кампаніі і падзівіцца сціпласці мілага дзядулі.

У канцы 1934 года доктар Напалеон Чарноцкі пакідае лекарскую працу, параязджае на вёску і асядае ў маёнтку Вялікая Лябёдка (станцыя Скрыбаўцы), дзе ціха, удалечыні ад гарадскога тлуму, аддаецца з усім запалам любімай сваёй справе: вырошчванню розных лекавых траў і раслін. Самотныя паходы на прыроду: на лугі, багны і тарфавіскі складалі яго любімы штодзённы занятак. Падчас тых вылазак доктар Чарноцкі пільна прыглядаўся да кожнай траўкі, кожнай кветкі, збіраў, сушыў і складваў самыя розныя гатункі лекавых траў і раслін, якія дастаўляў у розныя ўстановы і прадпрыемствы. Падчас той любімай працы, у якую ўкладваў рэшткі сваіх сілаў, прыйшла раптам хвароба і смерць прастарэлага дзядулі, пра жыццё, працу і высакародныя ідэі якога ведаюць толькі адзінкі.

**Літаратура:**

1) Napoleon Czarnocki. Przyczynki do historii P.P.S. - Ksiega Pamiatkowa P.P.S. Warszawa, 1923 г.

2) Waclaw Lipinski. Drukarnia „Robotnika” w Lipniszkach. „Niepodleglosc”, tom V, zeszyt 3, Warszawa 1932 г.

3) W podziemiach konspiracji. art. Tad. C. „Slowo” Nr. 306. 1935 г. List Napoleona Czarnockiego do redakcji w sprawie artykulu „W podziemiach konspiracji” – „Slowo” 12 listopada 1935 г.

4) Wladyslaw Abramowicz. Kolebka slowa drukowanego Wielkiego Marszalka - Lipniszki - chluba ziemi Nowogrydzkiej, „Kurjer Poranny” z dnia 20.11.b.r.

5) Notatka „Z zalobnej karty - s.p. dr. Napoleon Czarnocki”, skreslona przez czlonka Glownego Zarzadu Slow. Lakarzy S. Bezradeckiego. Patrz „Laka i Torfowisko” organ stowarzyszenia lakarzy Nr. 10? styczen-marzec 1937 г.? Warszawa-Sarny.

*(Артыкул з архіваў “Ziemi Lidzkiej”. Пераклад з польскай Станіслава Судніка.)*

# З Ямантаў Дакудаўскіх

## *120 гадоў з дня нараджэння Браніслава Яманта*

**Род Ямантаў не лідскі, але аказаўся цесна звязаным з Лідчынай і ў першую чаргу з Дакудавым. Тадэвуш Ямант узначальваў адміністрацыю маёнткаў князя Вітгенштэйна, якому належала і Дакудава. Ён часта прыязджаў у Дакудава і жыў тут. У яго было васьмёра дзяцей, якія таксама бывалі і жылі ў Дакудаве. Род Ямантаў прыняў самы актыўны ўдзел у паўстанні 1863 года, дастаткова сказаць, што дачка Тадэвуша Марыя Ямант была нарачонай Кастуся Каліноўскага. Пасля паўстання сям’я Ямантаў - бацькі і старэйшыя дзеці - была саслана ў Сібір. Лёс траіх малодшых дзяцей невядомы, але ў сярэдзіне другой паловы XIX стагоддзя ў Дакудаве жыве арандатар Казімір Ямант, якому падчас паўстання было 13 гадоў. У яго сям’і ў 1886 годзе нарадзіўся сын Браніслаў.**



**Браніслаў Ямант**

***ЯМАНТ Браніслаў Казіміравіч*** *(5.08.1886, в. Дакудава Лідскага павету - 4.02.1957), беларускі і польскі мастак, мастацкі педагог. Доктар мастацтвазнаўства (1953). Прафесар (1937). Вучыўся ў Віленскай рысавальнай школе І. Трутнева і Г. Рыбакова, адначасова ў гімназіі, якую скончыў у 1907. У 1908-10 вывучаў права ў Пецярбургскім універсітэце. З 1910 стала жыў у Вільні (у 1918-19 - настаўнік малявання ў рэальнай школе ў Гомелі). Выязджаў (да 1939) на плянэры ў Кракаў, Крамянец, Гародню, Люблін, Львоў, на Балтыку. З 1919 працаваў у дзяржаўных установах, выкладаў у віленскіх гімназіях. Адзін з заснавальнікаў Віленскага таварыства мастакоў (1920), быў сябрам яго ўправы. У 1928-34 вучыўся з перапынкамі на мастацкім факультэце Віленскага універсітэта. З 1931 - асістэнт кафедры пейзажнага жывапісу (кіраўнік Ф. Рушчыц), з 1936 - намеснік прафесара, у 1937-39 прафесар Віленскага універсітэта. З 1946 - дэкан мастацкага факультэта і прафесар кафедры пейзажнага жывапісу і нацюрморту Toruньскага універсітэта. Пісаў у жанры пейзажу. У выставах - з 1915 (у Вільні, Варшаве, Кракаве, Львове, Познані, Бруселі, Гаазе, Амстэрдаме, Бухарэсце, Маскве, Рызе, Берліне, Сан-Францыска, Балціморы). Сярод твораў: “Матыў старой Вільні” (1909), “Стог сена на лузе” (1913), “Пейзаж з рэчкаю” (1914), “Вясковы пейзаж” (1914), “Фантастычны пейзаж” (1922), “Пейзаж з каплічкаю” (1928), “Віхура” (1929), “Старыя вербы” (1929), “Дубы” (1931), “Падворак пры вул. Татарскай у Вільні” (1931), “Жыдоўская вуліца ў Вільні” (1934), “Вятрак” (1937), “Хата сярод дрэў” (1937), “Касцёл св. Міхала ў Вільні” (1941), “Вятрак” (1940), “Заснежаны падворак” (1944), “Завулак Снапоўка ў Вільні” (1954).* ***(Пяткевіч А. Людзі культуры з Гродзеншчыны. Гродна, 2000. С.71.)***

Сын Лідчыны. Неадбыўшыся праўнік (юрыст). Жыццё сваё прысвяціў маляванню. Нарадзіўся пад канец XIX стагоддзя, калі свет ужо паволі набліжаўся да вялікага канфлікту, 1-й Сусветнай вайны. Давялося яму жыць у часы неспакойныя, у часы вялікіх трансфармацый устояў, змен межаў і войнаў, у т. л. польска-бальшавіцкай і 2-й Сусветнай вайны, а таксама расійскай рэвалюцыі. Быў у трох вялікіх сталіцах: Вільні, Пецярбурзе і Кракаве. У час польска-бальшавіцкай вайны працаваў настаўнікам у Гомелі. Займаў пасаду прафесара ў Вільні, а пасля 2-й Сусветнай вайны - у Торуні.

Прыйшоў на свет 5 жніўня 1886 года ў вёсцы Дакудава. Быў сынам арандатара Казіміра і Марыі з Свячкевічаў. Вучыўся ў Вільні, сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, якая ў той час належала да Расійскай імперыі. Хадзіў у 1-ю класічную гімназію і аднačасова слухаў лекцыі малюнка ў школе, якой кіравалі І.П. Трутнеў і Г.Ф. Рыбакоў. Калі ў 1907 годзе Браніслаў Ямант выдатна закончыў школу і атрымаў атэстат сталасці, шмат дзвярэй адчынілася перад ім. Спачатку выбраў праўны (юрыдычны) факультэт, дзякуючы чаму мог у будучым мець працу. Не вядома, ці было гэта выбарам самога Браніслава, ці яго бацькоў. Фактам застаецца, што Б. Ямант паехаў у Пецярбург, сталіцу Расійскай імперыі, дзе ў 1908 годзе паступіў на факультэт права. Аднак душа мастака прагла іншай навукі. Праз два гады Ямант перапыніў вучобу, каб заняцца маляваннем. Яшчэ праз год адведаў Кракаў, старажытную сталіцу Польшчы, дзе меў нагоду пазнаёміцца з вучнямі мастака Яна Станіслаўскага.

Зноў праз год прыехаў у Вільню, балазе меў шанец знайсці там працу. На ўтрыманне зарабляў выкладаннем малямання (рысунка). У 1915 годзе дэбютаваў на выставе Віленскага мастацкага таварыства. Пасля заканчэння 1-й Сусветнай вайны выехаў у Гомель. Належала б устанавіць, што схіліла Б. Ямanta да такога кроку: ці выехаў туды па накіраванні на працу, ці ўжо на месцы знайшоў яе. У рэальнай школе, якую заснавала Macierz Szkolna (польская адукацыйная арганізацыя), у 1918-1919 гадах выкладаў мастацтва рысавання. У 1920 годзе адразу пасля далучэння Сярэдняй Літвы да Польшчы вярнуўся ў Вільню (Гомель аказаўся пад уладай Савецкай Расіі). Пачаў працу на пасадзе службоўца ў адміністрацыі польскай дзяржавы, якая аднаўлялася пасля доўгіх гадоў небыцця, а таксама стаў адным з ініцыятараў заснавання Віленскага таварыства мастакоў (мастакоўпластыкаў, WTAP). Да кіраўніцтва гэтай арганізацыі належаў ажно да моманту яе роспуску ў 1939 годзе. У 1921-28 гадах выкладаў рысунак у гімназіі імя Т. Чацкага, паралельна выкладаў на



***Б. Ямант. Вятрак (1940).***

курсах за сярэднюю школу пры гімназіі Жыгімонта Аўгуста, а таксама на рысавальных курсах ВТМ (WTAP).

Атрыманне вышэйшай адукацыі, звязанай з зацікаўленнем, пачаў даволі позна, толькі ў 1928 годзе. Выбраў факультэт прыгожых мастацтваў універсітэта Стэфана Баторыя, які зноў быў адкрыты (прыгадаем, што царскія ўлады зачынілі гэтую навучальную ўстанову пасля задушэння паўстання 1863 года). У працэсе вучобы ў 1928 і 1930 гадах наведаў шэраг гарадоў Заходняй Еўропы, у т. л. мастацтва малявання ўдасканальваў у Парыжы, Рыме, Брусэлі і Фларэнцыі, якія спрадвеку натхнялі мастакоў на творчую працу. Закончыў навуку з вельмі добрым вынікам у 1934 годзе. Пасля атрымання дыплома быў пакінуты на факультэце прыгожых мастацтваў Універсітэта Стэфана Баторыя, як старшы асістэнт на кафедры пейзажнага малявання, якую ачольваў Фердынанд Рушчыц. Неўзабаве быў прызначаны намеснікам прафесара, а пазней надзвычайным прафесарам пейзажнага малявання. На гэтай пасадзе ён працаваў з 1 студзеня 1937 года да моманту поўнай ліквідацыі універсітэта Стэфана Баторыя літоўскімі ўладамі 15 снежня 1939 года (прыгадаем, што пасля выбуху 2-й Сусветнай вайны частка Рэчы Паспалітай аказалася пад акупацыяй СССР, Вільня была перададзена літоўскай дзяржаве). Калі Літва, спачатку занятая Савецкім Саюзам, у 1941 годзе аказалася пад нямецкай акупацыяй, Браніслаў Ямант быў у Вільні. Не перапыніў працы са студэнтамі, хаця такая пазіцыя, безумоўна, вымагала ад прафесара пэўнай адвагі. Правядзенне адукацыйных заняткаў ва ўмовах акупацыі было справай не простай. Б. Ямант прымаў удзел таксама ў паседжаннях былой рады факультэта прыгожых мастацтваў універсітэта Стэфана Баторыя.

Пасля заканчэння вайны традыцыі віленскай навучальнай установы былі адноўлены ў



*Збожжасховішча*

гадзіну. Усталяваны каўшовы элеватар для механічнай пагрузкі піўной дробіны на аўтамабілі. Пушчаная росткаадбіўная машына прадукцыйнасцю 500 кг/гадзіну. Для ўзважвання гатовага соладу ўсталяваныя аўтаматычныя вагі "Хронас" Д -20. Усталяваны новы трыер прадукцыйнасцю 1,5 тоны ў гадзіну. У лагерным склепе зманціраваны 24 рамны фільтр і пласціністы ахаладжальнік для піва. Калектыву варачнага цэха прысвоена званне "Калектыва камуністычнай працы".

**1962 г.**

Пушчаны ў эксплуатацыю новы цэх безалкагольных напояў, заводакіраўніцтва і квасное аддзяленне. Асвоеная аўтаматычная лінія "Ленхарчмаша" прадукцыйнасцю 3000 бутэлек у гадзіну. У кожным аддзяленні ўсталяваныя купажныя чаны з механічным мяшаннем купажоў і астуджэннем. Усталяваны сілумінавы фільтр для фільтравання купажоў і сокаў. Зманціраваная халадзільна-аміячная ўстаноўка АВ -75 і трансфарматар магутнасцю 180 кв. Механізаваны: транспартоўка скрынь з напоямі ўсярэдзіне цэха і пагрузка іх на аўтамашыны, разгрузка пустой тары з чыг. вагонаў і загрузка цукру ў варачныя катлы, падача кваснога экстракту ў чаны для купажавання. Варэнне цукровага сіропу праводзіцца ў герметычна зачыненых катлах. Усталяваны **пяць радыёактыўных лічыльнікаў "РСП - 11"** на аўтаматычных лініях разліву бутэлькавага піва і безалкагольных напояў.

*"Амаль усё піва аддавалі Менску, у Лідзе заставалася 10 %. Тады ў Менску была "Аліварыя", і яна не спраўлялася." (Урбан.)*

**1963 г.**

У сакавіку піўзавод перададзены ў падначаленне Саўнаргаса Харчовай прамысловасці БССР. На свідравіне № 2 зманціравана помпа АТ - 8 прадукцыйнасцю 25 м3 /гадзіну. Усталяваны фільтр для фільтравання вады ФВР -2662 прадукцыйнасцю 1500 м3/ гадзіну. Усталяваны паветраны кампрэсар ВУ-3/8. Механізавана пагрузка піва ў аўтамабілі. Мадэрнізавана помпа для фільтравання піва. Зманціравана абсталяванне для кваснога цэха і асвоена тэхналогія вытворчасці квасу настойным спосабам. Праведзена замена металічных півапровадаў на шкляныя агульнай працягласцю 2200 пагонных метраў. Для захоўвання настояў усталявана эмаляваная цыстэрна ёмістасцю 6,3 м3. Запушчаны транспарцёр для разгрузкі аўтамабіляў з пустой тарай і падачай яе ў тарнае аддзяленне піўцэха. Зманціраваны параварачны кацёл ёмістасцю 300 л. для варэння сіропу. За кошт усталёўкі дадатковых ёмістасцяў у былым сокавым склепе магутнасць завода ўзрасла да 139000 гл. У лагерным склепе ўсталяваны 6 новых танкаў агульнай ёмістасцю 112 гл. Зманціравана абсталяванне для падрыхтоўкі купажоў з механічным мяшаннем і астуджэннем. Асфальтавана ўнутрызаводская тэрыторыя плошчай 5000 м2.

**1964 г.**

Пабудаваны склад прыёмкі тары ў піўцэху з механізацыяй. Скончаныя работы па павелічэнні магутнасці брадзільна-лагернага склепа на 20800 гл. піва. Механізавана загрузка цукру ў сіропаварачныя катлы, фільтраванне і падрыхтоўка купажоў у цэху безалкагольных напояў. Зманціраваны фільтр для фільтравання сокаў, якія ідуць для падрыхтоўкі напояў. Усталяваны паветраны кампрэсар прадукцыйнасцю 6 м3/ хвіліну. Пушчаная ў дзеянне халадзільна-аміячная ўстаноўка прадукцыйнасцю 200 тыс. кал/гадзіну. На заводзе выпускаліся жыгулёўскае, мінскае і рыжскае піва; напоі - вішнёвы, трускалкавы, журавінавы, мандарынавы, яблыч-



***Брыгада безалкогольнага цэха. Ніжні рад: Елманава Л.М, Мураўская Л.В., Кастоўская І.Б, Грушэвіч В.І. - брыгадзір, Таўрук А.М., Есавулкава М.І., Кавалёва Ч.І. Верхні рад: Багдзевіч М.В., Чэрап Р.И., Шкленік Я.М., Пільжыс Б.В., Сафонаў Ю.М., Заяц Г.Я., Глінская Р.К, Шмуговец З.Ф., Паплеўка Л.М.***



***Брыгада брадзільна-лагернага цеха. Ніжні рад: Кучарава, Воўк, Бяляўскі, Дыбоўскі, Выдрэша А.М. Другі рад:, Валынец І.М., Пацэвіч Т.А., Чысцякоў В.А. (1 траўня 1964 г.)***



***Брыгада разліву фруктовых вод.***



***Брыгада саладовеннага цэха***

ны, бруснічны, слівавы, цытрынавы (лімонны), памяранцавы (апельсінавы), "Лета", "Саяны", ліманад, крэмсода і квас.

**1965 г.**

Піўзавод ізноў перападначалены Міністэрству харчовай прамысловасці БССР. Аўтаматызаваны ўлік тэмпературы паветра пры сушцы соладу. Усталяваны дадатковы транспарцёр для пагрузкі піва. Для падачы соладу ў драбнілку ўкаранёны пнеўматранспарт. Зманціраваныя вагі для ўзважвання бочак з півам перад адпраўкай у гандлёвую сетку. Сямігадовы план выкананы заводам датэрмінова 20.10.1965 г. Выраблена звышпланавай прадукцыі на 480 тыс. руб.

**1966 г.**

Пачалося будаўніцтва цэха па падрыхтоўцы соладу. У цэху падрыхтоўкі напояў усталяваны фільтр для фільтравання сокаў, скончаны мантаж пнеўматранспарту для падачы збожжа са збожжасклада на трыер. У цэхах усталяваны лічыльнікі для ўліку выдатку электраэнергіі. Высаджана 85 дэкаратыўных дрэў і 150



***Саладовенны цэх.***



***Уваход у саладоўню***

кустоў, заасфальтавана 1000 м2 тэрыторыі. Распрацаваная рэцэптура піва "Лідскае" шчыльнасцю 13% і моцаю 4 градусы з добрымі смакавымі якасцямі. На Ўсесаюзнай дэгустацыйнай выставе ў Маскве піву "Лідскае" прысуджана шостае месца. Успамінае **М.П. Галяева**: *"Нам у Белпіўтрэсте сказалі: вы павінны стварыць сваё новае лідскае піва. Мы і стварылі. Дапамагала мне* ***Паліна Фёдараўна Смірнова*** *- заг. лабараторыі, яна суаўтар. Піва атрымала пяцёрку ў Маскве на дэгустацыі. У "Лідскага" у параўнанні з" Жыгулёўскім" больш высокая шчыльнасць і больш*

*алкаголю".* У першым паўгоддзі ў сацспаборніцтве сярод прадпрыемстваў горада завод заняў першае месца, яму ўручылі пераходны Чырвоны Сцяг гаркаму КПБ і гарвыканкаму.



***Уручэнне гарадскога сцяга Сляпцову Р.А. як пераможцу гарадскога сацспаборніцтва.***

Па выніках рэспубліканскага сацспаборніцтва за першы квартал заводу прысуджана трэцяе месца, за трэці квартал - другое месца і грашовая прэмія 1300 рублёў. Па выніках сямігодкі рабочая цэха безалкагольных напояў Ткачук В.П. узнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, рабочая піўцэха Кучарава А.І. - медалём "За доблесную працу", галоўны бухгалтар завода Пушкароў П.А. - медалём "За працоўную адзнаку". Дэлегацыя лідскіх півавараў наведала Калінінградскі піваварны завод.



***Ткачук В.П.***

**1967 г.**

У сярэдзіне 60-х гадоў была зроблена спроба рэфармавання народнай гаспадаркі СССР. На прадпрыемствах укараняліся эканамічныя стымулы: гасразлік, брыгадная форма арганізацыі працы, ствараліся ўласныя фонды матэрыяльнага стымулявання, тэхнічнага пераабсталявання і сацыяльнага развіцця. Піўзавод на новую сістэму планавання і эканамічнага стымулявання пераведзены 1 красавіка. Папярэдне быў распрацаваны комплексны план арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў. Планавым аддзелам быў праведзены аналіз гаспадарчай дзейнасці завода за 1966 год Былі разлічаныя фонды матэрыяльнага заахвочвання, сацыяльна-культурных мерапрыемстваў і развіцця вытворчасці. Распрацавана новае прэміяльнае палажэнне для працоўных і інжынерна-тэхнічных працаўнікоў. Новая сістэма планавання дазволіла павялічыць прэмію працоўным у два разы.

У сакавіку пачалі разліў піва "Лідскае", у першы ж дзень у гандлёвую сетку адправілі 1500 дэкалітраў. Кошт - 28 капеек за бутэльку. 1 ліпеня здадзены ў эксплуатацыю новы цэх падрыхтоўкі соладу прадукцыйнасцю 1700 тон соладу ў год. Усе працоўныя працэсы ў ім былі механізаваныя, усталяваныя кантрольна-вымяральныя прыборы. Пабудавана збожжасховішча для ячменю ёмістасцю 1000 тон збожжа. У ім усталявана высокапрадуктыўнае зернеачышчальнае абсталяванне. Завод адмовіўся ад арэнды складскіх памяшканняў іншых прадпрыемстваў.

**Кудзіна Яніна Францаўна** пачынала працаваць у саладовенным цэху. *(Запісана 27.04. 2006 г. на заводзе.)*

*"Нарадзілася ў 1947 г. у в. Бельскія. Бацькі аднаасобнікі, бацька меў сваю кузню, хацелі нават запісаць у кулакі і выселіць, але неяк абышлося, прызналі сераднякамі. Мама з Раманоўскіх з в. Навіцкія-1.*

*У яе 4 класы польскай школы. Я вучылася ў розных школах, у Дайнаўскай 1-4 класы, у Запольскай 5-8 класы, а 9-11-ты ў Лідскай вячэрняй школе. У школу пайшла з 8 гадоў, хваравітая была. Завяршыла сярэднюю адукацыю ў 1967 г.*

*Прыйшла на піўзавод. Тут адчыняўся саладовенны цэх. Нас навучалі: Ліцьвіненка Валянціна Васільеўна чытала курс тэхналогіі, маскоўскія адмыслоўцы тлумачылі па лініях, па трубах, мне гэта было цікава. Два гады працавала на замочванні. Ячмень чысцілі на спецмашынах, складавалі. Дзялілі ячмень на гатункі на сітах. Праводзілі паўторную ачыстку, ячмень першага гатунку ў адзін чан, другога - у другі. У буйнога ячменю вялікая экстрактыўнасць. Ячмень атрымлівалі з лідскіх калгасаў".*

На чыг. каляі абсталяваны скляпы для захоўвання піва і напояў плошчай 1380 м2. Пабудавана рампа для грузаў, склады для захоўвання збожжа. Механізаваны ўсе працэсы разгрузкі і пагрузкі прадукцыі і сыравіны. У цэху разліву піва ўсталяваны высокапрадукцыйныя аўтаматычныя мыйна-разлівачныя лініі "Інвеста" і "Ленхарчмаш" прадукцыйнасцю 6000 бутэлек у гадзіну. Праведзеная рэканструкцыя мыйных апаратаў. Поўнасцю адрамантаваная вонкавая каналізацыя. Пасаджана 75 дэкаратыўных дрэў і 75 кустоў. Забрукавана каменем 4238 м2 бруку і заасфальтавана 10500 м2.

Аўтары рэцэптуры фірмовага піва “Лідскае” - **заг. лабараторыі П.Ф. Смірнова, майстар М.І. Крушэўскі, заг. вытворчасці М.П. Галяева і майстар В.У. Ліцьвіненка** атрымалі пасведчанне ўдзельнікаў Выставы Дасягненняў Народнай Гаспадаркі. За 1 і 2 кварталы па выніках рэспубліканскага сацспаборніцтва МХП БССР заводу прысуджана другое месца з грашовай прэміяй па 1300 рублёў за квартал. У трэцім квартале 1967 года завод выйшаў пераможцам ва Ўсесаюзным сацыялістычным спаборніцтве сярод прадпрыемстваў харчовай прамысловасці. Дэлегацыя працоўных і ІТР пабывала на піўзаводах Рыгі і Каўнаса.

У чацвёртым квартале завод пераведзены ў падначаленне “Белпіва”. Засвоена некалькі відаў новых напояў, у тым ліку напой “Колас” з соладавага экстракту.

*“У 1967 г. да 50-годдзя Савецкай улады выпусцілі адзін раз піва “Ленінградскае”. Яно стаяла (захоўвалася) 90 сутак, тры месяцы”. (Урбан А.І.)*

Адбыўся пераход на 5-дзённы працоўны тыдзень. Каманда гарадошнікаў піўзавода заняла 2-е месца ў абласной спартакіядзе харчавікоў.

**1968 г.**

За лік перастаноўкі танкаў лагернага склепа і ўсталёўкі дадатковых ёмістасцяў магутнасць піўзавода ўзрасла да 1,5 млн. дл піва. У Гародні на нарадзе дырэктараў, галоўных інжынераў прадпрыемстваў піваварнай прамысловасці краіны “Жыгулёўскае” піва атрымала вышэйшую адзнаку - 97 балаў (па 100 бальнай шкале). Улетку ў горадзе адчынены піўны бар завода. На завод прыйшла працаваць Галіна Ўладзіміраўна Тыртых - будучы распрацоўнік дзесяткаў лепшых марак лідскага піва.

**1969 г.**

Да канца 60-х гадоў значна ўдасканаленая тэхналогія вытворчасці піва, палепшаныя яго смакавыя якасці, стаў разнастайным асартымент. Гэта дазволіла лідскім піваварам паспяхова пастаўляць сваю прадукцыю на рынак, павялічваць яе аб’ёмы. У сакавіку ў Лідзе прайшла рэспубліканская нарада працаўнікоў піваварнай прамысловасці. У другім квартале піўзавод выйшаў пераможцам у рэспубліканскім сацыялістычным спаборніцтве сярод прадпрыемстваў харчовай прамысловасці БССР. Прадпрыемству ўручаны пераходны Чырвоны Сцяг і першая грашовая прэмія. Агульны аб’ём рэалізаванай прадукцыі склаў 2 479,6 тысяч рублёў.

**Асартымент прадукцыі, якая выпускалася ў 1967-1970 гадах (у тыс дл.)**

| Год / Гатунак піва | 1967 | 1968 | 1969 | 1970 |
|---|---|---|---|---|
| “Жыгулёўскае” бут. | 877,2 | 868.2 | 803,8 | 740 |
| “Жыгулёўскае” бачк. | 441,2 | 457,2 | 471,2 | 515 |
| “Лідскае” | 45,0 | 99,7 | 155,3 | 200 |
| “Рыжскае” | 9,4 | | | |
| “Асвяжальнае” бачк. | 9,3 | | | |
| “Маскоўскае” | 7,4 | | | |
| “Мінскае” | 2,9 | | | |
| “Ленінградскае” | 1,6 | 3,0 | | |
| “Украінскае” | 1,6 | | | |
| “Портар” | 1,6 | 1,6 | | |
| “Сакавіцкае” | 1,53 | 1,6 | 69,0 | 40 |
| “Аксамітнае” бачк. | | 43,2 | 27,0 | |
| “Аксамітнае” бут. | | | 6,1 | 60 |
| **Усяго** | 1398.7 | 1473.4 | 1532, 5 | 1555 |
| **Напоі** | **1967** | **1968** | **1969** | **1970 план** |
| “Яблычны” | 33,7 | 25,17 | 37,36 | 12 |
| “Мандарынавы” | 23,13 | 22,67 | 19,77 | 14 |
| “Вішнёвы” | 18,25 | 3,07 | 18,34 | 15 |
| “Ліманад” | 21,59 | 24.61 | 25,46 | 19 |
| “Крушон” | 7,97 | 20,12 | 9,28 | 14 |
| “Трускалкавы” | 4,22 | 6,16 | 6,0 | 13 |
| “Цытрынавы” | 44,48 | 28,68 | 21,83 | 23 |
| “Саяны” | 14,93 | | | 8 |
| “Чарнічны” | 1,97 | 1,55 | | |
| “Колас” (ас. ў 1967 г.) | 2,57 | 6,48 | 1,19 | |
| “Сітро” | 1,9 | 15,8 | 13,62 | |
| “Рабінавы” | | 2,55 | | |
| “Сліва” | | 5,09 | | |
| “Лета” | | 7,56 | 3,35 | |
| “Памяранцавы” | | | 17,19 | 5 |
| “Халадок” | | | 10,44 | |
| “Палескі” | | | 9,16 | 10 |

Выпушчана бутэлькавага піва - 1034,3 тыс. дклітраў, бачкавога - 498,2 тыс. дклітраў, безалкагольных напояў 269,5 тыс. дклітраў, соладу ячменнага - 2162,2 тоны, таварнага - 320,5 тон. Усю гэтую прадукцыю выпускаў калектыў працаўнікоў колькасцю 272 чалавекі.

**1970 г.**

Праведзена рэканструкцыя саладоўні з давядзеннем яе магутнасці да 2 600 тон у год. Прадпрыемства выпускае пяць гатункаў піва і чатырнаццаць гатункаў напояў. На заводзе працуюць 159 мужчын і 105 жанчын, з вышэйшай адукацыяй 11 чалавек.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Старажытныя пасяленні Лідчыны***

# ДВОРЫШЧА

## Назва

**Дварышча** - вёска ў Лідскім раёне, на рацэ Жыжма.



***Рэчка Жыжма ў Дворышчы. Вясна 2006 г.***

Як лічыць **У.А. Жучкевіч**, назва селішча паходзіць ад асновы ***двор***: "дворышча - месца былога двара, сядзібы"(2). Найбольш поўна разглядае паходжанне тэрміну ***"дворышча"*** даследчык **Іван Якаўлевіч Яшкін** у кнізе "Беларускія геаграфічныя назвы".

А. Без сумненняў, першым абазначэннем ***Дворышча*** было месца, дзе стаяў двор (дом з гаспадарчымі пабудовамі), тое ж і ***дворнішча***, і ***дворнічышча*** *(дворище, дворищо, двориско, дворыще)*. Ён мог мець вялікія памеры, быць агароджаным і вельмі кідацца ў вочы...

Б. *Дворышча* - гэта папялішча. Гэтым словам называлі спапялёнае месца, якое засталося ад згарэўшага двара. - ***"Мы великый князь Витовть дали есьмо Еську Нешевичу дворыще Ярополково пустое"*** (АЮЗР, **1.10.1427 г.**);

В. Месца, дзе стаяў панскі двор, у некаторых мясцінах на Беларусі найчасцей звалі *дворышчам*.

Г. *Дворышча* - гэта месца каля хаты, паміж сельскагаспадарчымі пабудовамі і хатамі, тое ж і *панадворышча*.

Д. Архіўныя звесткі да паловы XV стагоддзя гавораць, што пад словам *"дворышча"* разумелася: адзін двор або некалькі, частка сяла.

Е. У тых жа актавых запісах *дворышча*: 1) вялікі дом; 2) поле; 3) лог і поле.

А таксама мера зямельнай плошчы - *"полтора дворища земли"* з 1516 г.

Паводле **Уладзіміра Юрэвіча** назву ***дворышча*** давалі тым паселішчам, якія ўзнікалі на месцы былога двара, сядзібы багацея, пана. *Дворышчам* называем і пасяленне вялікай сям'і - хутар у дзвегры хаты, калі ад бацькі адсяляліся сыны і заводзілі ўласную гаспадарку. Звычайна 2-3 дворышчы ўжо ўтваралі вёску, якой давалі або новую назву, або пакідалі ранейшую.

Сапраўды, на заходняй ускраіне вёскі здаўна існавала сядзіба або двор: цэнтр фальварачна-паншчыннай сістэмы гаспадарання.

## Ранняя гісторыя

Тэрмін ***двор***, як аб'ект абкладання падаткамі і павіннасцямі, існаваў у Вялікім Княстве Літоўскім з 13-га стагоддзя. Пазней на сялянскія сядзібы распаўсюдзіўся тэрмін ***дым***, а тэрмін ***двор*** стаў прыналежнасцю больш буйной, феадальнай гаспадаркі. Звычайна феадальныя двары мелі ўласныя назвы. Калі ж назвы няма, то гэта значыць, што або яна забылася, або была непатрэбная. Назва станавілася непатрэбнай, калі той двор або быў адзіны на ўсю ваколіцу, або быў вельмі вялікі ў параўнанні з іншымі, або з'явіўся вельмі рана, з'явіўся першым і атрымаў назву ***Двор***, як першыя вёскі атрымоўвалі назвы *Сяло, Сялец* і да т. п.

*1. Жучкевич В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974, с. 93.*
*2. Юрэвіч У. "Слова жывое, роднае, гаворкае..."*

У 1433 г. Вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Жыгімонт Кейстутавіч надаў за заслугі **Яну Гаштольду** ***Новы Двор***, на месцы якога пазней узніклі Тракелі. Дворышча, Тракелі і бліжэйшыя да іх селішчы - адзіны гаспадарчы комплекс агульнай плошчай 10 тысяч гектараў. Таму зусім верагодна, што *Стары Двор*, або проста ***Двор*** быў якраз на месцы сучаснага Дворышча, тады ўзнікненне яго трэба адносіць да канца 14-га -- пачатку 15-га стагоддзяў і лічыць адным з найстарэйшых пасяленняў Лідчыны.

Двары гэтай эпохі ўяўлялі сабой найпрацейшыя абарончыя пункты дзяржавы, рангам ніжэй за замкі, але тым не менш здольныя некаторы час утрымліваць абарону, адбіцца ад невялікіх вайсковых аддзелаў і шаяк рабаўнікоў. Таму пры выбары месцаў пад двары ўлічваліся і прыродныя абарончыя характарыстыкі мясцовасці.





***Тут стаяў Двор канца 14-га пачатку 15-га стст.***

Не выключэнне і наш Двор. Спалучэнне узвышшаў і нізінаў поймы рэчкі Жыжма павышалі абароназдольнасць Двара, рабілі яго цяжкадаступным з двух бакоў. З іншых двух бакоў была неабходнасць у штучных умацаваннях (капаўся роў). Па ўсяму перыметру Двара ставіўся тын. Аднак трэба меркаваць, што ў адзін з наездаў Двор, нягледзячы на ўмацаванні, быў спалены дашчэнту і доўга не аднаўляўся. Двор ператварыўся ў дворышча. Назва ***Двор*** змянілася на назву ***Дворышча***.

Каму належаў Двор да спалення невядома, але ў сярэдзіне 15-га стагоддзя тэрыторыі ў раёне Дворышча належалі Вялікім князям літоўскім.(1) Яны былі заселены падданымі Вялікага князя “на службах”, баярамі, якія аднаасобна, або супольна з іншымі упраўляліся з самымі рознымі ўчасткамі зямлі, плацілі самыя розныя даніны і выконвалі самыя розныя павіннасці на карысць больш высокага ўладальніка зямель.

Раскопкі на месцы былога двара ў Дворышчы маглі б адказаць на многія пытанні з яго гісторыі, але існуе вялікая небяспека, што культурны слой XIV-XV стагоддзяў мог быць цалкам або часткова знішчаным падчас больш позніх будоўляў і перабудоваў.

У **1520** (1524) г. Дворышча належала пану **Юрыю Ільінічу** - маршалку каралеўскаму, старасце лідскаму.

У 1528 годзе Дворышча перайшло да яго сына **Шчаснага Ільініча**, жанатага з Сафіяй Радзівіл, дачкой Яна Барадатага Радзівіла, кашталяна троцкага. Паводле перапісу войска ВКЛ 1528 г. Шчасны Юр’евіч Ільініч павінен быў ставіць 32 коней (конных воінаў), але, колькі ён павінен быў ставіць ад Дворышча, не ўказана.

Калі Шчасны Ільініч у 1540 годзе памёр, то адзіны сын яго **Юры** быў узяты на выхаванне сваім дзядзькам Мікалаем Радзівілам Чорным, выхоўваўся ў Нясвіжы, а пазней служыў у аўстрыйскім войску. У 1555 г. рымскі кесар Фердынанд II надаў Юрыю Ільінічу тытул графа на Міры. Паводле перапісу войска ВКЛ у 1567 г. **Юры Ільініч** ад маёнтка Дворышча ставіў на службу 12 коней і 6 драбаў. Адзін узброены воін выстаўляўся ад 20 дымоў. Жыхароў вакол Дворышча павінна было быць не менш 2

*1. Michal Szymielewicz. Dworzyszcze i Trokiele. Ziemia Lidzka, № 1 (44), 2001.*

тысяч чалавек.

Юры Ільініч прыняў да сябе за сына князя **Мікалая Крыштафа Радзівіла**, свайго стрыечнага брата, вядомага як **"Сіротка"**, і 4 траўня 1569 года падарыў яму ва ўласнасць замак Мір і маёнткі Жуховічы, Дворышча, Зэльву, Чарноўчыцы і Белую і памёр у росквіце веку, як апошні прадстаўнік магутнага роду Ільінічаў. (1)



*"Корчак". Герб Ільінічаў, уладальнікаў Дворышча.*



*Мікалай Крыштаф Радзівіл "Сіротка", уладальнік Дворышча*

За часы "Сіроткі" Дворышча перажыло валочную памеру (прыкладна 1570 г.). На дробных землеўладальнікаў накладваліся паншчына і выплаты на карысць магната ўжо ў залежнасці ад велічыні ўчастка зямлі, якім той валодаў

Езуіты пачалі дзейнасць у ВКЛ у 1569 годзе. У 1608 годзе была створана асобная Літоўская правінцыя ордэна. У 1759 г. з Літоўскай правінцыі выдзелілася Мазавецкая правінцыя. У гэтых дзвюх правінцыях у 1770 годзе было 90 езуіцкіх устаноў, езуітам належала ў ВКЛ каля 12 тысяч валок зямлі (каля 250 тыс. га).

**Мікалай Крыштаф Радзівіл "Сіротка"** (1549-1616) - уладальнік Нясвіжа, Міра і Дворышча пад уплывам езуіта Пятра Скаргі стаў актыўным каталікам. Выпраўляючыся ў пілігрымку ў Святую Зямлю князь Мікалай Крыштаф Радзівіл "Сіротка" маёнтак Дворышча з прылеглымі сёламі, палямі і лясамі ў 1574 г. аддаў у заклад, а 22 жніўня 1577 г. прадаў за паўцаны біскупу **Валяр'яну Пратасевічу**. Праз год, 25 жніўня 1578 г. В. Пратасевіч падарыў Дворышча "навечна" Віленскаму езуіцкаму калегіюму. 1 красавіка 1579 г. кароль Стэфан Баторы зацвердзіў гэты падарунак.(2) Калегіюм да гэтага часу стаў Акадэміяй.

Дворышча, Тракелі і бліжэйшыя да іх пасяленні знаходзіліся ў валоданні езуітаў амаль дзвесце гадоў, як маёнтакі прызначаныя для ўтрымання Віленскай Акадэміі. Сяляне падпарадкоўваліся рэктарам Акадэміі, пачынаючы з самага першага - Пятра Скаргі. Рэктары стала трымалі ў Дворышчы сваіх адміністратараў ці, так званых, пракуратараў, і асабіста наведвалі і кантралявалі гаспадарку.

Дворышча і паселішчы вакол яго ў канцы 16-га стагоддзя, трэба меркаваць, былі невялікімі і нічым асаблівым не адметнымі. На першай карце Вялікага Княства Літоўскага Тамаша Макоўскага ("Радзівілаўская карта"), складзенай у 1595, афармленай у 1599 і надрукаванай у 1603 годзе, Дворышча не пазначана, хаця ўжо існавала каля двух стагоддзяў.

У 1591 г. рэктар Віленскай Акадэміі **Гарцыя Алабіяна** заснаваў у Дворышчы капліцу Святой Маці Божай Ружанцовай (3) , а 1 траўня 1591 г. з дазволу генерала Ордэна перадаў тракельскай плябаніі в. Мейдуны з 6 аселымі сялянамі і штогадовую суму - па тры грошы літоўскія з жылога дома і 10 грошаў літоўскіх штогод з маёнтка Дворышча. (4)

Вайна 1654-1660 гадоў так знішчыла гэтыя маёнткі, што паводле падліку Адама Саковіча, адміністратара літоўскага скарбу, за 1661 год "айцы езуіты з маёнткаў Дворышча і Тракелі, якія належалі да Віленскага калегіюма" заплацілі падымнае ледзь толькі з 16 дымоў, якія відавочна засталіся не знішчанымі на той велізарнай тэрыторыі. (5)

У так зв. "Шчорсаўскім" летапісе, пераказаным Яўстахам Тышкевічам у "Лістах аб Швецыі" (1847), ксяндзы езуіты апавядаюць, што ў часы нашэсця на Літву Карла XII (1706), Дворышча, спустошанае працяглымі рабункамі, мела пайсці з дымам, каб не было выкуплена сотняй чырвонных залатых, якія адзін з манахаў, папярэджваючы спаленне, з найвялікшым спехам прывёз з калегіюма. (6)

Дварышчанская капліца Маці Божай Ружанцовай ( p.w. N.M.B. Rozancowej) на Дварышчанскіх могілках пры Лідскім гасцінцы была збудавана ў 1591 г. У спісах касцёлаў 1669 г., укладзеным на сінодзе пры біскупстве кс. Сапегі і 1744 г. пры біскупстве кс. Зянковіча капліца пазначаная як філіяльны касцёл ад Тракельскага. У 1770 г. пасля зруйнавання старой езуіты

*1. Michal Szymielewicz. Dworzyszcze i Trokiele. Ziemia Lidzka, № 1 (44), 2001.*
*2. Szymielevicz M. "Dworzyszcze i Trokiele".// Ziemia Lidzka. № 3. 1939. S. 83.*
*3. Catalogus ecclesiarum et cleri dioecesis vilnensis. Vilnae,1923. S.68.*
*4. Szymielevicz M. "Dworzyszcze i Trokiele" // Ziemia Lidzka. № 3, 1939. S.87.*
*5. Michal Szymielewicz. Dworzyszcze i Trokiele. Ziemia Lidzka, № 1 (44), 2001.*
*6. Там жа.*



*На месцы колішняй дварышчанскай капліцы Маці Божай Ружанцовай устаноўлена фігурка Езуса Хрыстуса. Вакол фігуркі добра праглядваецца васьмівугольны фундамент былой капліцы, пабудаванай Аляксандрам Вольскім .*




*Схематычны план Дварышчанскай капліцы Маці Божай Ружанцовай на Дварышчанскіх старых могілках*

пабудавалі новую капліцу, а ў 1860 г. арандатар і будучы ўладальнік Дворышча **Аляксандр Вольскі** пабудаваў на тым жа месцы новую васьмівугольную капліцу. У гэтай капліцы 9 траўня 1864 г. тракельскі пробашч **Кастусь Сцефановіч** адпеў памерлую 7 траўня ў веку 67 гадоў жонку заснавальніка Станіславу з князёў Мірскіх Вольскую. Капліца гэтая звалася імем N.P.M Ружанцовай, абраз яе ў срэбным акладзе старажытнай работы ў 30-я гады знаходзіўся ў алтары капліцы. У пачатку верасня - 8 дня тут штогод пры вялікім зборы народу праходзілі набажэнствы. (1)

У 1782 годзе побач з Дворышчам у Гімбутах была пабудавана яшчэ адна капліца. Пабудаваў яе прэзідэнт лідскага земскага суда Адам Бажымоўскі.

## Уладальнікі

Нажаль, гісторыя сядзібы “Дворышча” цалкам не адлюстраваная ў літаратуры. Ні апісання двара, ні апісання сядзібнага комплексу не сустракаецца ні ў савецкіх, ні ў польскіх выданнях па гэтай тэматыцы (2). Сядзіба не ўключана нават у “Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі”.

Згадка пра маёнтак Дворышчы з прывядзеннем кароткіх статыстычных звестак сустракаецца толькі ў некаторых дарэвалюцыйных выданнях даведкавага характару. Такія выданні як “Волосці і найважныя паселішчы Еўрапейскай Расіі”, “Віленская губерня. Поўны спіс населеных месцаў са статыстычнымі дадзенымі аб кожным селішчы” Гашкевіча І.(3) даюць нам звесткі пра уладальнікаў маёнтка, колькасць жыхароў і наяўнасць у маёнтку млына, броварнага завода, карчмы, касцёла. Але апісання пабудоў нідзе няма.

З-за адсутнасці бібліяграфічных крыніц давялося карыстацца выключна архіўным матэрыялам.

Пошук матэрыялаў вёўся ў архівах і бібліятэках г. Вільні, таму што маёнтак Дворышча знаходзіўся ў Лідскім павеце Віленскай губерні.

У Цэнтральным Дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай Рэспублікі былі прагледжаныя вопісы ўсіх фондаў, дзе меркавана можна было знайсці матэрыял па гісторыі сядзібы ў Дворышчы. Гэта фонды: “Віленскай губерні” № 526, “Губернскага будаўнічага аддзялення” № 382, “Губернскага камітэта па складанні і разгляду інвентароў абшарніцкіх маёнткаў” № 394 і іншыя.(4) Пошук матэрыялаў вёўся таксама ў Дзяржаўным архіве Літоўскай рэспублікі і рукапісных аддзяленнях Акадэмічнай і Ўніверсітэцкай бібліятэк г. Вільні.

У выніку выяўлены шэраг дакументаў па гісторыі маёнтка. Найболей каштоўнымі з іх з’яўляюцца інвентар маёнтка Дворышча сярэдзіны XIX стагоддзя, ацэначны вопіс будынкаў фальварка Дворышча і праект на пабудову крухмальнага завода ў маёнтку. (5)

У Бюро тэхнічнай інвентарызацыі г. Ліды знойдзены папавярховы план вадзянога млына

*1. Szymielevicz M. “Dworzyszcze i Trokiele”.// Ziemia Lidzka. № 3, 1939, s. 85.*

*2. Звестак аб Дворышчы няма нават у такіх абагульняючых праца па сядзібна-парkаваму будаўніцтву Беларусі як “Архітэктура палацава-сядзібных ансамбляў Беларусі” А.І. Кулагіна “Садова-паркавае мастацтва Беларусі Федарчука А.Т., “Паркі Беларусі” Анціпава Ў.Г.,”*

*3. Поўныя выходныя дадзеныя гэтых кніг гл. у бібліяграфіі.*

*4. Гл. спіс прагледжаных фондаў у канцы артыкула.*

*5. ЦДГА Літ. Рэспублікі - ф. 382, воп. 1, спр. 1680.*

складзены ў 50-х гадах мінулага стагоддзя.

Нажаль не ўдалося выявіць графічнага матэрыялу які адносіцца да сядзібнага дома.

Зыходзячы з наяўных матэрыялаў, паспрабуем аднавіць гісторыю сядзібы Дворышча.

Сядзібы, як цэнтры фальварачна-паншчыннай сістэмы гаспадарання пачалі ўзнікаць у Беларусі ў канцы XVI пачатку XVII ст.

У канцы XVII стагоддзя маёнтак Дворышча належаў Віленскай Акадэміі. Ксёндз **Ян Франц Кірцэвіч** з Дворышча, рэктар Віленскай Акадэміі валодаў у 1717 годзе 51 дымам, гэта каля 400 жыхароў.

Да канца XVIII стагоддзя маёнтак Дворышча знаходзіўся ў валоданні ў манахаў езуіцкага ордэна. Пасля касацыі ордэна езуітаў у 1775 годзе (папская була ад 1773 года) езуіцкія маёнткі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай канфіскаваліся. Было канфіскавана і Дворышча, маёнтак перайшоў у скарбовае кіраванне, яго прыняла Раздатачная Камісія, якая прадала яго **Міхалу Ромеру**, троцкаму суддзі, з абавязкам выплаты пэўных квотаў у касу Адукацыйнай Камісіі. Неўзабаве значная частка маёнткаў расцерушылася паміж меншымі ўладальнікамі і арандатарамі другой і трэцяй рукі. (1)

Падчас паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі пад раніцу 6 ліпеня 1794 года Дворышча было занятае рускімі войскамі (300 расейскіх кавалерыстаў, казакі і дзве палявыя гарматы) генерала Кнорынга. Кнорынг выправіў з Дворышчаў дазор у бок Ліды, недалёка ад сядзібы дазор сустрэлі лідскія сотні пад камандаваннем Караля Сцыпіёна дэль Кампа і Язэпа Вілбека і адагналі назад. Тым не менш перад усёй сілай Кнорынга лідскія сотні адступілі ў Ліду. (2)

Паводле люстрацыі 1796 года Дворышча з фальваркамі Уладзіслававa, Тракелі і Гураў знайходзіліся ў спадчыннай уласнасці **Ігната Шукевіча**, слонімскага земскага пісара, у якога Дворышча, Тракелі і Уладзіслававa арандавала пані **Пузыніна** (Пузыня). Гураў арандаваў Станіслаў Воўк. У той час гэтая воласць ахоплівала 22 вёскі і мела 224 дымы і 1265 душ прыгонных. (3)

У пачатку XIX стагоддзя часткай тых маёнткаў валодалі або арандавалі **Валадкевічы**, а за імі маёнтак Дворышча з фальваркамі Тракелі, Гураў меў у сваім валоданні **Стэфан Незабытоўскі,** а пасля яго "паезуіцкі маёнтак Дворышча з фальваркамі Тракелі, Гураў і ўсім да гэтага прыладдзем" быў "загандлёваны ад скарбу і перайшоў у вечнае валоданне сапраўднага стацкага дарадцы і кавалера **Войцаха Пуслоўскага**" (4), уладальніка суседніх Геранёнаў. (5)

4 жніўня 1811 г. Войцах Пуслоўскі прадаў Дворышча і Тракелі **Антону Наркевічу**, капітану польскіх войскаў.

Разам з тым у пачатку XIX стагоддзя частка маёнтка Дворышча знаходзіўся ў пажыццёвым валоданні ў **Цыпрыяна Шуковіча** "былога прэзідэнта 1-га дэпартмента Гарадзенскай губерні".(6) Цыпрыян Шуковіч падчас вайны 1812 г. паступіў у войска і ваяваў на баку французаў. Ён не вярнуўся ў тэрміны, азначаныя маніфестам 1812 года для асоб, якія ўдзельнічалі ў вайне на баку Напалеона.

Мабыць не вярнуліся пасля вайны таксама ні Антон Наркевіч, ні яго нашчадкі, бо ў гэты час яны не рабілі ніякіх выплат на рахунак Адукацыйнай Камісіі, і маёнтак Дворышча ў лютым 1814 года ізноў паступіў у скарбовае кіраванне, але ўжо расійскае.

Кіраўнічы сенат пастанавіў у 1821 годзе вярнуць тыя маёнткі **Пуслоўскаму**, які ўнёс на пакрыццё запазычанасці ў Адукацыйную Камісію 17 лютага 1822 года 33817 рублёў срэбрам.

У 1833 г. пасля смерці Войцаха Пуслоўскага маёнтак перайшоў па спадчыне шляхам паведамлення яго сынам, адстаўному паручніку **Вандаліну Пуслоўскаму,** а таксама **Францішку, Уладзіславу, Ксаверыю**. Сам Вандалін Пуслоўскі, відаць, не займаўся гаспадаркай і, хутчэй за ўсё, здаў маёнтак у арэнду былому старшыні Навагрaдскага межавага апеляцыйнага суда **Аляксандру Антонавічу Вольскаму**, таму што менавіта Вольскі падпісаў інвентар маёнтка пры аб'яве яго на месцы ў Дворышчы 23 жніўня 1847 года. (7)

У гэты час маёнтак складаўся з мызы Дворышча, асобных фальваркаў Тракелі і Гураў, сяліб Уладзіслававa і Божы двор, да якіх належала 18 вёсак і 4 чыншавыя сядзібы. "Да мызы Дворышча належаць: 1) вёска Дворышча 1/2 вярсты ад мызы, у ёй двароў 15, рэвізскіх душ мужчынскага полу 31, жаночага полу 37, наяўных м. п. - 54, ж. п. - 54 і вёскі Бялькі, Кабыльнікі, Пашунцы, Зяневічы, Суцькі, Цяшкелі, Гурыны, Мяргінцы, Юравічы - усяго 76 двароў, 270 душ мужчынскага полу і 273 жаночага полу … усяго

*1. Michal Szymielewicz. Dworzyszcze i Trokiele. Ziemia Lidzka, № 1 (44), 2001.*
*2. Лідскі летапісец. № 1-2 (25-26), 2004, ст. 28, 37.*
*3. Michal Szymielewicz. Dworzyszcze i Trokiele. Ziemia Lidzka, № 1 (44), 2001.*
*4. ЦДГА Літвы. Ф. 394, воп. 4, ад.зах. 782, арк.36.*
*5. Michal Szymielewicz. Dworzyszcze i Trokiele. Ziemia Lidzka, № 1 (44), 2001.*
*6. Бібліятэк ВДУ, аддзел рукапісаў. 4. 30681-30682 (A.980) арк.2.*
*7. ЦДГА Літвы. ф.394, воп. 8, ад.зах. 1944, арк. 39.*

зямлі 8758 дзесяцін". (1)

Паезуіцкі маёнтак Дворышча знаходзіўся ў валоданні спадчыннікаў сапраўднага стацкага дарадцы Войцаха Пуслоўскага да 1855 года. А з гэтага года, "са згоды былой Палаты Дзяржаўных маёмасцяў перайшоў у валоданне" былога арандатара гэтага маёнтка "абшарніка Вольскага па купчай, утворанай 3 лютага 1855 года". (2)

Пры гэтым на Вольскага былі перанесеныя ўсе тыя правы і абавязкі, якія ляжалі на Пуслоўскіх. "На гэтай падставе Вольскі абавязваўся штогод уносіць у скарб 5250 руб., г. зн. па 6% ад сумы, у якую ацэнены азначаны маёнтак былым польскім урадам пры продажы паезуіцкіх маёнткаў старажытным польскім шляхціцам на падставе канстытуцыі 1775 года".(3)

Вольскія валодалі маёнткам Дворышча чуць больш за 10 гадоў. (4)

Праўда, у 60-х гадах уладальнікам названы ўжо адстаўны паручнік **Станіслаў Аляксандравіч Вольскі**,(5) відаць, сын Аляксандра Антонавіча Вольскага, які згадваўся раней.

Невядома па якой прычыне Станіслаў Вольскі не выплаціў у казну паложаную суму за валоданне паезуіцкім маёнткам, але тым не менш на 1 траўня 1863 года на ім лічылася нядоімка па маёнтку Дворышча ў памеры 5250 рублёў. Нягледзячы на тое, што Палата Дзяржаўных маёмасцяў неаднаразова нагадвала аб неабходнасці аплаціць нядоімку, Вольскі гэтага не зрабіў. А "па гэтаму Палата ў кастрычніку 1864 года паведаміла ў губернскае кіраванне аб узяцці маёнтка ў секвестр з перадачай гэтага мясцоваму ўчастковаму службоўцу". Вольскаму быў устаноўлены ільготны тэрмін да 8 снежня 1965 года на працягу якога ён мог ліквідаваць запазычанасць.

8 чэрвеня 1865 г. у Дворышча неспадзявыана з'явіўся мураўёўскі ураднік з Віленскай дырэкцыі дзяржаўных маёмасцяў і ўвесь комплекс паезуіцкіх маёнткаў - Тракелі, Гурава, Скверны, Уладзіслававa і Дворышча з лясамі, лугамі і г. д. забраў у дзяржаўны скарб і, выгнаўшы адтуль правамоцнага яшчэ арандатара Станіслава Вольскага, абвясціў тую маёмасць у сваім распараджэнні, якое трывала некалькі гадоў. (6)

Па правілах Найвысока зацверджанай 23 ліпеня 1865 г. інструкцыі яшчэ пакуль не скарбовы маёнтак Дворышча падлягаў разбіўцы на ўчасткі для продажу асобам рускага паходжання. Акрамя таго выдзяляліся землі для сялян.

Выгнаны з маёнтка Станіслаў Вольскі не змог ці не захацеў выплаціць запазычанасць у тэрмін, які заканчваўся 8 снежня 1865 года. І тады Палата Дзяржаўных маёмасцяў, спасылаючыся на права канфіскацыі паезуіцкіх маёнткаў за няўплату даўгоў, 31 снежня 1865 года "вызначыла прыняць азначаны маёнтак у скарб, пра што данесла другому Дэпартаменту 10 студзеня 1866 года." (7)

І хоць Вольскі жаліўся з гэтай нагоды ў Сенат, але, мабыць, ён чакаў канфіскацыі, таму што ўвесь хлеб ураджаю 1865 г. ухітрыўся прадаць яшчэ на корані, так што пры ўзяцці маёнтка ў скарб "не знойдзена ніякага збожжавага хлеба для пракармлення прыслугі і жывёлы." (8)

На падставе Акта аб наданні зямлі сялянам ад 27 траўня 1866 г. сялянам маёнткаў Дворышча і Тракелі выдзелена для выкупу зямлі з разлікам: вёска Бянейкі - для 9 дымоў, Кабыльнікі - 14, Пашунцы - 8, Юравічы - 4, Суцькі - 4, Гурыны - 6, Ячанцы - 4, Мяргінцы - 12, Эйтуны - 18, Мігуны - 17, Граблі - 4, Вайтовічы - 7, Шнуравічы - 4, Пашаны - 3, Дайнава - 10. Разам для 124 дымоў было выдзелена 2664 дзесяціны 1995 сажняў кв. = 2911 га. Сама вёска Дворышча на той момант мела 14-15 дымоў. Для ажыццяўлення гэтых рэформаў хутчэй за ўсё і быў прысланы мураўёўскі ўраднік, які пракіраваў Дворышчам да 1868 года.

Нарэшце "наезд" урадніка скончыўся. Па кантракце ад 28 траўня 1868 года маёнтак Дворышча перададзены ў арэнднае ўтрыманне губернскаму сакратару **Віктару Міхайлавічу Пятухову** за выплату ў год па 4300 руб. срэбрам (9), а той у сваю чаргу здаў дробным арандатарам прыбытковыя артыкулы маёнтка: карчму, млын, піўзавод і інш. (10)

Дарэчы, згаданы пад 1868 годам піўзавод у Дворышчы - **другі па ўзросту** з вядомых піўзаводаў Лідчыны пасля завода Ландо і Камянецкага ў Лідзе (1863 г.). Ён працаваў яшчэ ў 1880-я гады. Будынак завода быў з дрэва.(11)

Аднак маёмасныя пяратурбацыі не скончыліся. У адносінах да маёнткавага комплексу Дворышча вярнуліся да інструкцыі 23 ліпеня 1865 г. З маёнтка Дворышча былі ўтвораны два

*1. ЦДГА Літвы. ф. 392, воп.4, ад.зах. 782, арк.2 і 2аб.*
*2. ЦДГА Літвы, ф.521. воп. 7, ад.зах. 3468, арк.6аб.*
*3. ЦДГА Літвы. ф.521, воп.7, ад.зах.3468, арк.7.*
*4.ЦДГА Літвы, ф.521, воп.1, ад.зах.1270, арк.23.*
*5. ЦДГА Літвы, ф.524, воп.1, ад.зах.3468, арк.7аб.*
*6. Michal Szymielewicz. Dworzyszcze i Trokiele. Ziemia Lidzka, № 1 (44), 2001.*
*7. ЦДГА Літвы, ф.525, воп.1, ад.зах.3469, арк.8.*
*8. Там жа.*
*9. ЦДГА Літвы, ф. 525, воп.1, спр.1270 арк. 43-45.*
*10. Там жа, арк.29*
*11. ЦДГА Літвы, ф. 525, воп.1, спр.1270 арк. 131.*

продажныя участкі - уласна Дворышча і Тракелі. “З якіх першы на падставе Найвысокага наказу, што адбыўся ў 16 дзень кастрычніка 1868 года, павінен быць прадстаўлены ва ўласнасць, на 37 гадовым праве, генерал-ад’ютанту **барону Лівену Вільгельму Карлавічу**(1), а другі, па хадайніцтву генерал-губернатара Паўночна-Заходняга краю прызначаецца ў продаж, на 20-ці-гадовым праве, г.зн. з прычыны ўзнагароды за службу ў Заходнім краі, **генерал-маёру Нікіціну** (2)”. (3)

Увесну 1869 года начальнік Віленскай люстрацыйнай камісіі загадаў вытворцу спраў Захараву неадкладна падрыхтаваць продажныя ўчасткі б. м. Дворышча. (4)

14 лютага 1870 года арандатар маёнтка каллежскі сакратар Пятухоў вярнуў маёнтак у скарб (5), а 13 студзеня 1870 года адбылася перадача ўчастка Дворышча, ацэненага ў 33 тыс. 856 р. 28 коп., ва ўласнасць **барона Лівена**, з растэрміноўкай платы на 20 гадоў без працэнтаў. (6) Пераход Дворышча ад мінстэрства дзяржаўных маёмасцяў ва ўласнасць да барона Лівена, члена Дзяржаўнага савета, старшага лоўчага царскага двара, адбыўся на падставе акта дня 5 лютага 1870 года.(7)

Праз 10 гадоў уладальнік Дворышча ізноў памяняўся. Справа ў тым, што “па духоўным тастаманце обер-егермайстра Найвысокага Двара генерал-ад’ютанта барона **Вільгельма Карлавіча Лівена** 15 лютага 1880 г. Санкт-Пецярбургскім акруговым судом зацверджаным і па ўступным акце 5 чэрвеня 1880 г. учыненым” маёнтак Дворышча дастаўся **Вільгельму Густавічу Лівену** (8), а ў 2-ой палове 80-х гадоў XIX стагоддзя Дворышча перайшло да яго брата барона **Карла Густавіча Лівена**. Ад генерал К.Г. Лівена маёнткам Дворышча ў 1890 годзе перайшоў да яго сына **Мікалая Лівена** (9), які да 1896 года прадаў маёнтак чарговаму ўладальніку. Ім аказаўся ці то сенатар **Церцій Філіпаў** (10), ці то яго сын камергер найвысокага двара **Сяргей Церціевіч Філіпаў**.

У якім менавіта годзе ўступіў С. Філіпаў у кіраванне маёнткам не ўдалося ўстанавіць, але ў 1896 годзе ён ужо валодаў Дворышчам таму што да гэтага года адносіцца будаўніцтва С. Ц. Філіпавым у Дворышчы крухмальнага завода.

С.Ц. Філіпаў быў сынам вядомага рускага пісьменніка і дзяржаўнага дзеяча XIX стагоддзя Церція Іванавіча Філіпава. Ён стала жыў у Пецярбурзе, займаў важнае становішча пры двары. С.Ц. Філіпаў быў вядомы тым, што скупляў маёнткі (Дворышча - не адзіны маёнтак у Беларусі, які набыў С.Ц. Філіпаў) з мэтай абагачэння шляхам далейшага іх перапродажу або здачы ў арэнду па частках, таму што кошты на зямлю пастаянна ўзрасталі.

У 1900 г. некаторы з Філіпавых прадае маёнтак Дворышча **абшарніку Івану Карышаву** (11), а 24 траўня 1906 года Дворышча з фальваркамі Уладзіслававым, Шуламі, Мікалаевым, Вялікімі Цяшкелямі і Марысевым разам 2754 дзесяціны, атрымаў з люстрацыі ўжо дакладна **Сяргей Філіпаў**, шамбелян царскага двара, які для далейшага гандлю нерухомасцю маёнткі раздрабіў. Цэнтр іх плошчай у 302 1/2 дзесяціны з млынам на рацэ Жыжме ў 1911 годзе набыў **Аўгуст Амберг** (12), латыш па нацыянальнасці. Магчыма, што ён валодаў маёнткам на правах арэнды. Падставу для такога меркавання даюць закладныя запіскі на атрыманне пазыкі пад заклад земельных участкаў маёнтка Дворышча (3), якія захоўваюцца ў ЦДГА Літвы. Гэтыя “закладныя запіскі датаваныя 1908-1916 гадамі і ўладальнікам маёнтка Дворышча ў іх названы Сяргей Церціевіч Філіпаў. Але паколькі маёнткі былі раздробленыя, то без планаў іх разабрацца, што было прададзена, а што здадзена ў арэнду, цяжка. Невядомая лёс С.Ц. Філіпава пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пасля заключэння мірнай дамовы паміж Расіяй і Польшчай маёнтак Дворышча апынуўся ў складзе Лідскага павету Віленскага Краю Рэчы Паспалітай.

Уладальнікам фальварка Дворышча ў гэты час з’яўляецца вядомы ўжо **Аўгуст Амберг**. Палякі прызналі за ім права ўласнасці на маёнтак, таму хутчэй за ўсё Аўгуст Амберг маёнтак у С. Філіпава ўсё такі выкупіў. Аўгуст Амберг меў жонку польку па імені Яна (Яня, Яніна) і чацвёра дзяцей: сыноў Аляксандра ды Вернера і дачок Гертруду ды Эльзу.

Амберг валодаў фальваркам да 1939 года. Пасля прыходу саветаў Амберг уцёк і больш у Дворышчы не з’яўляўся.

Апошнім гаспадаром фальварка Дворышча быў зяць Амберга **Уладзімір Вазняк**. Ён з жонкай прыехаў у Дворышча ў 1941 г. пасля прыходу немцаў і займеў тут трагічны лёс.

*1. Лівен - барон, генерал-ад’ютант, обер-егермейстар царскага двара.*
*2. Нікіцін - начальнік штаба Віленскага вайсковай акругі.*
*3. ЦДГА Літвы, ф.525, справа 3468, арк. 22об.*
*4. Там жа, справа 1270, арк.1.*
*5. ЦДГА Літвы, ф.525, справа 3468, арк. 19.*
*6. Там жа, арк. 40 аб.*
*7. Michal Szymielewicz. Dworzyszcze i Trokiele. Ziemia Lidzka, № 1 (44), 2001.*
*8. ЦДГА Літвы, ф.525, справа 3468, арк.166.*
*9. Там жа. Адз. зах. 1270. арк.178.*
*10. Michal Szymielewicz. Dworzyszcze i Trokiele. Ziemia Lidzka, № 1 (44), 2001.*
*11. Гашкевіч І.І. Віленская губерня ... Вільня 1905, с. 194.*
*12. Агляд Віленскай губерні за 1911 г. Вільня 1911. с.*
*13. ЦДГА Літвы. ф. 542, воп.1, адз. зах. 540, арк.4.*

# Фальварак

Фальварак - сядзіба ўяўляў сабой частку феадальнага валодання, дзе самастойна вялася панская гаспадарка. Складаўся фальварак з двара і зямельнага ўчастка. У двор - комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў, якія звычайна размяшчаліся па перыметры прастакутнага ўчастка, уваходзілі панскі дом або дом адміністратара, адна-дзве невялікія хаты для працоўных і вартаўніка, вытворчыя і гаспадарчыя пабудовы.

Увесь гэты комплекс пабудоў прысутнічаў і ў фальварку Дворышча. Больш таго можна меркаваць, што Дворышча было ўзорным фальваркам, таму што належала манахам езуітам.

Фальварак, або як яго называлі мыза Дворышча, размяшчаўся на аддаленні ў чвэрць вярсты ад вёскі Дворышча і прымыкаў да сплаўной ракі Жыжмы.

У 40-х гадах XIX стагоддзя сядзібны комплекс уключаў у сябе наступныя пабудовы: "Дом жылы панскі драўляны на мураваным фундаменце" (1), а таксама "эканамічная хата - 1 ; свіран з сутарэннямі - 1, стайня - 1; хлявоў для быдла - 2, аўчарнік - 1, адрына для складвання сена - 1, гумно - 1, хата для мельніка" (2).

Меўся таксама драўляны вадзяны млын на 3-х стойках. (3) Акрамя гэтага, на тэрыторыі сядзібы размяшчаліся наступныя пабудовы: ляднік, печ для абпалу вапны, мураваны броварны завод з свіранам на гарэлку. Вінакурэнне на заводзе праводзілася на працягу 6 месяцаў і выкурвалася да 6412 вёдраў гарэлкі. Для продажу гарэлкі ў маёнтку было заведзена 13 корчмаў. Прычым у самім Дворышчы стаяла мураваная карчма. Выручка ад продажу пітва складала 800 рублёў срэбрам. (4) У Дворышчы меўся таксама сельскі запасны склад і драўляная капліца ў імя Божай маці, пабудаваны ў 1770 г. яшчэ ксяндзамі-езуітамі. (5)

Як відаць, у сярэдзіне XIX стагоддзя сядзіба працягвала захоўваць комплекс пабудоў, традыцыйны для фальварачнай сістэмы гаспадаркі XVII - XVIII стагоддзяў. Магчыма нават, што




***Карта фальварка Дворышча, рэканструкцыя. Лічбамі абазначаны: 1 - Лідскі гасцінец; 2 - дарога ў фальварак; 3 - старыя могілкі; 4 - фундамент старой капліцы; 5 - сажалкі; 6 - Жыжма; 7 - падвод Жыжмы да млына; 8 - вадзяны млын; 9 - 4-павярховая вежа; 10 - 3-павярховая вежа; 11 - палац, 12 - хаты парабкаў, 13 - стары пейзажны парк; 14 - свіран з сутарэннямі; 15 - склеп; 16 - карчма; 17 - крухмальны завод; 18 - фундамент бровара, 19 - ляднік, 20 кароўнік, 21 -гумно, 22-адрына, 23 -хата мельніка, 24 - стары мост.***

---

*1. ЦДГА Літвы, ф. 394, воп. 4, адз. зах. 782, арк. 3 аб.*
*2. ЦДГА Літвы, ф. 394, воп. 8, адз. зах. 1944, арк. 4 аб.*
*3. Там жа, воп. 4, адз. зах. 782, арк. 3 аб.*
*4. ЦДГА Літвы, ф. 349, воп. 4, адз. зах. 782, арк. 4.*
*5. Там жа, арк. 3 аб.*

некаторыя з пералічаных будынкаў сядзібы былі збудаваныя яшчэ ў XVIII стагоддзі пры езуітах. На гэта паказвае нататка да інвентара маёнтка за 1847 год, у якім гаворыцца, што і "панскія і сялянскія абзавядзенні па большай частцы вельмі трухлявыя". А выправіць іх, або пабудаваць новыя цяжка па прычыне адсутнасці ў маёнтку будаўнічага лесу.

Пад значную рэканструкцыі сядзіба ў Дворышчы падпала толькі ў 2-й палове XIX стагоддзя. Комплекс пабудоў застаўся ранейшым - дадаўся толькі піваварны завод (1), але на месцы струхлелых драўляных будынкаў былі збудаваны новыя мураваныя будынкі сядзібнага дома, млына вадзянога, піваварнага і крухмальнага заводаў, а таксама драўлянага свірана на мураваных сутарэннях. Відаць, у гэты час быў сфармаваны і парк пры сядзібе.

У пачатку 1880 г. у маёнтку была капліца, вінакурны і піваварны завод, вадзяны млын і карчма.

Рэканструкцыя сядзібы праводзілася ў той час, калі пачаўся заняпад дваранскай сядзібы, звязаны з распадам фальварачна-паншчыннай сістэмы гаспадарання. Размах сядзібнага будаўніцтва паступова ішоў на змяншэнне. Мяняецца і сама эстэтычная ўстаноўка. Новыя і рэканструяваныя сядзібы сталі больш нагадваць багатыя дачы; цэніцца ўжо не знешні бляск або паказная пышнасць, а, хутчэй, інтымнасць, "выгода", "паэтычнасць" прыроднага асяроддзя дома, бытавыя выгоды. Вялікае значэнне надаецца своеасаблівасці, нават арыгінальнасці аблічча сядзібы. Гэта стварае перадумовы для адвольнасці ў мастацкіх рашэннях, бесхарактарнага змешвання стыляў у пабудовах. Асабістыя густы ўладальнікаў ужо не стрымліваюцца модай, як гэта было ў пачатку стагоддзя ў часы панавання стылю класіцызму. (2)

Менавіта гэтым новым эстэтычным устаноўкам адпавядаў і сядзібны дом у Дворышчы.

З "Ацэначнага вопісу будынкаў" складзенага ў 1869 годзе пры канфіскацыі маёнтка ў С. Вольскага мы даведваемся, што ў фальварку Дворышча меўся "панскі жылы дом з 2-мя вежамі".

Дом быў зроблены з "часанага хваёвага дрэва, звонку абабіты дошкамі, на мураваным фундаменце. Пакрыты дранкаю (гонтаю), дах выфарбаваны фарбай цёмна-чырвонага колеру".(3) *"Дом падзяляўся на тры флігелі, сярэдні - чатырохпавярховы, а два крайнія - 2-х павярховыя, з чатырма ганкамі, з іх - два зашклёныя, у гэтым доме 30 пакояў з кухняю, у ёй студня з меднаю помпаю і трубою з кранамі, якая праходзіць у пральню; у гэтай апошняй уладкована печка з цэглы, і ў яе памешчаны медны кацёл або апарат для грэння вады для мыцця бялізны, ва ўсім доме некалькі калідораў, 8 камораў, 49 вокнаў, 28 печаў і камінаў, 49 дзвярэй. У пакоях, выключаючы ніжні паверх, падлогі фарбаваныя, сцены вытынкаваныя і выбеленыя, дзверы двойчатыя на жалезных завесах і гаках (круках) з ўнутранымі замкамі, у вокнах рамы венецыянскія падвойныя. Печы з кафлі герметычныя з чыгуннымі дзверцамі.*

*У ніжнім паверсе ўладкаванне простае, вокны невялікія з кратамі".* (4)

*"Па абодвух баках дома дзве мураваныя вежы з галярэямі наверсе, сцены іх выфарбаваныя звонку жоўтай фарбай. Галярэі абнесеныя балясамі, падлогі іх пакрыты бляхай, выфарбаванай фарбай цёмна-чырвонага колеру". (5) На вежах былі ўладкованыя бляшаныя трубы для сцёку вады. Вежа па правым баку ад дома - "чатырохпавярховая з лесвіцаю ўсярэдзіне. У ёй 4 пакоі без падлог. Тынкованая, 24 акны, 4 печы, 4 дзверэй.*

*Другая вежа, па левым боку дома - трохпавярховая. У ёй акрамя лесвіцы пакояў няма, з 7 вокнамі з 3-х бакоў. Пад гэтай вежаю знаходзіцца лядні".* (6)

Даўжыня дома дасягала 25,2 сажні, а шырыня 6,2 сажні. Усё будынкі г.зн. і дом, і вежы названыя трывалымі і ацэненыя ў 2000 рублёў. (7)

Відаць, сядзіба была перабудаваная ў 50-х гадах XIX стагоддзя, але, магчыма, што цэнтральны драўляны аб'ём застаўся ранейшым, а да яго прыбудавалі дзве мураваныя вежы.

Больш падрабязнае апісанне сядзібнага дома даць немагчыма таму, што не ўдалося выявіць графічны матэрыял з малюнкам сядзібы, а дом у цяперашні час цалкам разбураны.

Захавалася толькі адна чатырохпавярховая вежа. Сядзібная вежа ўяўляе сабой 4-х павярховы, квадратны ў плане цагляны будынак на высокім каменным падмурку. Вышыня вежы каля 15 метраў. Пад ёй маецца склеп. Будынак мае насычанае дэкаратыўнае аздабленне. Абтынкаваныя сцены вежы прарэзаныя паўцыркульнымі вокнамі з прафіляванымі арачнымі сандрыкамі. Вуглы вежы да чацвёртага яруса выдзелены рустам.

Чацвёрты паверх аддзелены ад трэцяга шырокім прафіляваным карнізам. Верхні паверх служыў, відаць, назіральнай пляцоўкай, з якой можна было любавацца наваколлямі. Сцены 4-

1. *Воласці і найважныя паселішчы Еўрапейскай Расіі. Вып. У. Спб. 1886, с. 19.*
2. *А.П. Вергуноў. У.А. Гарохаў. Рускія сады і паркі. М. 1988, с. 134.*
3. *ЦДГА Літвы, ф. 525, воп.1, спр.1270, арк. 130.*
4. *Там жа.*
5. *Там жа, арк. 130 аб.*
6. *Там жа, арк. 131.*
7. *Там жа, арк. 130.*




*План і фасад палаца Вольскага ў Дворышчы. Выгляд з боку Лідскага гасцінца. Схематычная рэканструкцыя.*

га паверха мелі па тры падоўжаныя паўцыркульныя акны з кожнага боку вежы. Над вокнамі былі такія ж прафіляваныя арачныя сандрыкі, як і ў вокнах ніжніх ярусаў. У адрозненне ад ніжніх паверхаў сцены верхняга паверха не мелі рустоўкі вуглоў, але затое былі ўпрыгожаныя чатырма паўкалонамі дырочнага ордэна з кожнага боку.

Будынак вежы завяршаўся нешырокім фрызам і карнізам з зубчастым атыкам. У апісанні 1869 года сказана, што вежы мелі галярэі наверсе, абнесеныя балясамі. (1) Па гнёздах у сцяне для бэлек ўдалося ўстанавіць, што дах быў двухсхільны, нахіламі "ўнутр" вежы. У сцяне, якая прымыкала да палаца, выяўлена адтуліна для вадасцёкавага жолаба і "вілкі", якія трымалі вадасцёкавую трубу.

Унутры сцен вежы пракладзены дымаход, які ідзе знізу па спіралі па ўсіх чатырох сценах усіх паверхаў. Печы знаходзіліся ў падвале вежы. З аднаго боку вежы была прыбудоўка няяснага прызначэння. Пра наяўнасць прыбудоўкі сведчаць выемкі для бэляк у сцяне вежы і карніз, які накрываў стык страхі прыбудоўкі са сцяной вежы.

Пластычнае рашэнне фасадаў вежы, з поўным наборам архітэктурных элементаў эпохі адраджэння паказвае на яўны эклектычны характар архітэктуры сядзібы. Гэты так званы "неарэнесансны" стыль быў шырока распаўсюджаны ў сядзібнай архітэктуры Беларусі другой паловы XIX - пачатку XX стагоддзя.

Перш чым прывесці аналагі неарэнесанснай сядзібы ў Дворышчы неабходна адзначыць, што ў асяроддзі архітэктараў 2-ой паловы XIX пачатку XX стагоддзя "панаваў творчы індывідуалізм, мастацка-стылявы экстрэмізм, што выключала наяўнасць нават двух аднолькавых па кампазіцыі сядзіб". (2)

Прагледзеўшы вялікую колькасць неарэнесансных сядзіб мы выдзелілі дзве, як нам здаецца, найбольш блізкія да захаваўшагася фрагменту сядзібы ў Дворышчы.

Гэта сядзібны дом ў г. п. Лынтуны (Пастаўскага раёна), пабудаваны ў 1907 г. у выглядзе абагульненага віду венецыянскага, размеш-

*1. ЦДГА Літвы, ф. 525, воп.1, спр.1270, арк. 130, 130 аб.*
*2. Гісторыя Беларускага мастацтва. Т.3, канец ХУШ пачатак XX ст. Мінск. 1989, с. 178.*



**Вежа палаца Пуслоўскіх ў Дворышчы.**



**Фрагмент сцяны вежы палаца Пуслоўскіх у Дворышчы, на якой відны сляды прымыкання страхі і выемкі перакрыццяў палаца.**



**Уваход у падвал вежы.**



**Скляпенні падвала вежы**



**Дымаходныя адтуліны ў сцяне вежы**



**Тынкованы дымаход ў сцяне вежы**

чанага на канале "палацо". (1). Двухпавярховы сядзібны дом мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, у якой дамінуе трох'ярусная квадратная ў сячэнні вежа. У цэнтры фран-

---

*1. Гісторыя Беларускага мастацтва. Т.3, канец XYIII пачатак XX ст. Мінск. 1989, с. 183.*

тальных фасадаў ідэнтычныя тэрасы на спараных канеліяваных калонах. У экстэр'еры сядзібы прадстаўлена ўся шматграннасць рэнесансных форм і прыёмаў. У дэкоры выкарыстаны фактурны і гладкі руст, атыкі, балюстрады, трохвугольныя і лучковыя сандрыкі, гірлянды, пальматы і г.д. (1)

Яшчэ большае падабенства вежа ў Дворышчы мае з вежай сядзібы Тарнова, размешчанай у тым ж Лідскім павеце.

Асновай для будаўніцтва сядзібнага дома ў Тарнове з'явілася ўтрыраваная форма італьянскай вілы, трактаваная ў дынамічнай асіметрычнай кампазіцыі з вежай-дамінантай. (2) Сядзіба ў Тарнове сфармавалася ў канцы XIX - пачатку XX стагоддзя. Сядзібны дом уяўляў сабой мураваны асіметрычны ў плане будынак з маляўнічай ступеньчатай кампазіцыяй фасадаў. Асноўнай часткай будынка з'яўляецца двухпавярховы аб'ём з цэнтральным выступам рызалітам на галоўным фасадзе.





*Новабуд на фундаменце трохпавярховай вежы.*



*Увахлд у ляднік пад трохпавярховай вежай.*

З заходняга боку размешчана аднапавярховая прыбудова, з усходняй - дамінантная ў сілуэте чатырохпавярховая вежа, па абодвух баках цэнтральнага рызаліту над ганкамі размешчаны балконы. Вуглы асноўнага аб'ёму руставаныя.

Цэнтральная вось галоўнага фасада выдзелена рызалітам і вертыкальным радам паўцыркульных вокнаў з прафіляванымі арачнымі сандрыкамі. Планіроўка будынка анфіладна-колідорная. (3)

Вежа ў Дворышчы мае агульныя рысы з вежамі і Тарноўскай, і Лынтунскай сядзібаў.

Так першыя тры паверхі вежы Дворышчанскай сядзібы практычна ідэнтычныя вежы сядзібы ў Тарнове. Адрозненне складаецца толькі ў тым, што ў Тарноўскай сядзібе вуглы вежы не маюць руста. Затое дакладна такі ж руст маюць вуглы асноўнага аб'ёму тарноўскай сядзібы. Верхні чацвёрты ярус вежы Дворышчанскай сядзібы мае больш агульнага з вежай сядзібы ў Лынтунах. І ў той, і ў другой вежы верхнія ярусы аддзеленыя ад ніжніх шырокім карнізам і маюць па тры вялікія паўцыркульныя акны з кожнага боку.

Ад другой вежы - трохпавярховай - у Дворышчы захаваўся фундамент, на якім у 80-я гады 20-га стагоддзя надбудавалі нешта незразумелае "пад старыну". Захаваўся таксама ляднік пад вежай, уваход у які завалены. Наяўнасць ледніка дае падставу меркаваць, што гэтая вежа не апальвалася. Пра архітэктурныя асаблівасці яе зараз сказаць цяжка. Трэба меркаваць, што стыль абедзвюх вежаў быў блізкі.

Сядзібы, прыведзеныя намі ў якасці аналагаў да Дворышча, пабудаваныя на мяжы XIX-XX стагоддзяў. Але сядзібны дом у Дворышчы быў пабудаваны значна раней. Найболей верагодна, што пабудову сядзібы ажыццявілі **Пуслоўскія**, якія валодалі Дворышчам да 1855 года.

З "вопісу будынка" за 1869 год, які ўжо згадваўся, відаць, што акрамя сядзібнага дома ў комплекс сядзібы ўваходзілі два жылыя флігелі. Адзін з іх "жылы эканамічны дом з хваёвага дрэва

1. *Збор помнікаў гісторыі і культуры Белорусі. Віцебская вобласць. Мн., 1985, с. 329.*
2. *Гісторыя Беларускага мастацтва. Т.3. Мн., 1989, с.185.*
3. *Збор Помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Мн., 1986, с. 245.*

пакрыты дранкаю; даўжыня - 15, шырыня 4 1/2 саж., стары". (1) У гэтай хаце было 3 сенцаў, 8 абтынкаваных пакояў "у якіх столь з дошак, падлогі бітыя з гліны, 5 печаў з двума выведзенымі наверх даху комінамі, 4 печы - цагляныя і 1 з кафлі. Пад гэтым домам ёсць невялікі склеп". (2)

Другі эканамічны дом з ганкам і сенцамі з хваёвага дрэва на каменным падмурку пакрыты саломай; 5 1/2 саж. даўжыня; 3 1/2 саж. шырыня, трухлявы. У хаце "пакояў з кухняю 5, з іх 4 абтынкаваныя, у гэтых пакоях падлогі і столь з дошак.

У "Вопісе" пералічаны і гаспадарчыя пабудовы. Гэта хлебная адрына з хваёвага лесу на каменным падмурку, 6 хлявоў, стайня, вышкі, вяндлярня, свіран, ляднік. Млын з хваёвага дрэва, кузня драўляная, піваварны завод з дрэва. Бровар мураваны, карчма. (3)

Усё будынкі названыя альбо старымі, альбо трухлявымі. Таму пазнейшымі ўладальнікамі маёнтка большасць гаспадарчых будынкаў была пабудавана зноўку.

У цяперашні час на тэрыторыі сядзібы захаваліся поўнасцю або часткова будынкі млына, крух-




*План крухмальнага завода. 1896 г.*



***Брук ад Лідскага гасцінца да фальварка Дворышча. Злева крухмальны завод, справа карчма. Брук пакрыты асфальтам у 2006 г.***

1. *ЦДГА Літвы, ф. 525, воп.1, спр. 1270, арк. 131.*
2. *Там жа.*
3. *Там жа, ф. 525, воп.1, спр. 1270, арк. 131-140.*

мальнага завода, ледніка, свірана, карчмы, кузні і нейкага складскога памяшкання.



**_Фасады крухмальнага завода._**

З усіх гэтых гаспадарчых пабудоў дакладнае датаванне мае толькі будынак крухмальнага завода, які размешчаны на заходняй ускраіне сядзібы на даволі значным аддаленні ад сядзібнага дома.

Завод пабудаваны С. Ц. Філіпавым у 1896 годзе. У ЦДГА Літоўскай Рэспублікі знойдзены праект на пабудову крухмальнага завода ў маёнтку Дворышча. (1)

Паводле гэтага праекту завод быў пабудаваны з буйнога дзікага каменю на вапнавай рошчыне. Знешнія бакі камянёў былі счэсаны такім чынам, што атрымліваліся роўныя плоскасці розных каляровых адценняў. Гэта надавала пабудове вельмі маляўнічы выгляд. Будынак завода “Г”-падобны ў плане. Да працяглага прастакутнага асноўнага аб’ёму з паўночна-ўсходняга боку прымыкае невялікая, амаль квадратная ў плане прыбудова, у якой размяшчалася паравая машына.

Сцены будынка прарэзаны прастакутнымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі без усякага дэкору.

Будынак быў пакрыты высокім двухсхільным дахам, які ўтварае даволі шырокае паддашкавае памяшканне, у якое вяла драўляная лесвіца.

Бэлечнае перакрыцце самага вялікага памяшкання




**_Фрагмент сцяны крухмальнага завода з датай заснавання._**



**_Руіны крухмальнага завода. 2006 г._**

---

_1. ЦДГА Літвы,, ф. 382, воп. 1, справа 1680, арк. 2._

мела дадатковыя апоры ў выглядзе васьмі драўляных слупоў.

Будынак завода неаднаразова мяняў сваё функцыянальнае прызначэнне - мянялася планіроўка, з'яўляліся разнастайныя прыбудовы. Да 1973 года там размяшчаліся майстэрні с/г тэхнікі Таму, першым чынам неабходна зняць "налёт часу" - апошніх гадоў. Пасля гэтага частку будынка, якая найболей захавалася, можна рэканструяваць і прыстасаваць для новага прызначэння, а частку - закансерваваць.

Побач стаяла хата для рабочых на шэсць сем'яў. Зараз там зарослы падмурак.

Побач з крухмальным заводам знаходзіцца падмурак яшчэ адной пабудовы. Першапачатковае прызначэнне яе нам не вядома. Магчыма гэта быў бровар або піваварны завод, якія згадваюцца, а можа - стайня. Гэта невялікі аднапавярховы "Г"- падобны ў плане будынак пакрыты двухсхільным дахам. Мур быў выкананы аналагічна апісанаму муру крухмальнага завода г.зн. з часанага дзікага каменю.

Насупраць крухмальнага завода цераз дарогу стаяла карчма. Завод, карчма і брук паміж імі фармавалі ўезд у фальварак.

Былая **карчма** як і будынак **крухмальнага завода**, выкананыя ў камені. Толькі карнізы, аконныя і дзвярныя перамычкі ў цэгле.

Карчма (10 х 12 м) - аднапавярховы будынак - размешчаны ўдалечыні ад жылых і гаспадарчых пабудоў вёскі, побач з сажалкай. Зараз, пад'язджаючы да Дворышча, звяртаеш увагу, што карчма і завод знаходзяцца за 50-100 м ад паказальніка, за межамі вёскі. Архітэктура карчмы, як і млына - лаканічная. Усё эмацыйнае ўздзеянне дасягаецца за лік спалучэння каменю і цэглы. У савецкі час карчма была перароблена пад кузню.



***Карчма, 2006 г.***

Наўпрост насупраць сядзібнага дома паміж дзвюма невялікімі сажалкамі размешчаны **вадзяны млын.**

Млын пабудаваны не на Жыжме, а побач. Для яго працы была створана цэлая водная сістэма, якая ўключала шлюз на Жыжме, падвадны канал, воданазапашвальную сажалку, сажалку адпрацаванай вады і адвадны канал, па якім вада вярталася ў Жыжму. Рабочая сіла стваралася за кошт розніцы ўзроўняў вады перад шлюзам і пасля шлюза.

Будынак млына пабудаваны з бутавага каменю ў той жа манеры, што і крухмальны завод. Толькі франтоны выведзеныя з цэглы. Пабудова 2-х павярховая прастакутная ў плане памерам 25, 6 х 12,2 метра, да паўночна-заходняму тарца асноўнага аб'ёму прымыкае аднапавярховая прастакутная прыбудова памерам 9,9 х 5,5 метра. (1)

Таўшчыня сценаў першага паверху асноўнага аб'ёму дасягае 1,15 метра, другога паверху - 90 см, таўшчыня сценаў прыбудовы каля 60 см.

Млын мае высокі двухсхільны дах, крыты чырвонай чарапіцай. На паўднёва-заходнім схіле даху ёсць чатыры аконныя праёмы - люкарны.

Прыбудова крытая аднасхільным дахам.

Паўднёва-заходні фасад млына меў па баках ледзь выступаўшыя рызаліты. Вокны першага паверху гэтага фасаду мелі прастакутную форму, а вокны другога паверху - паўцыркульную форму.

На астатніх фасадах аконныя праёмы, як першага так і другога паверхаў, прастакутнай формы.

Вялікая вышыня паддашкавага памяшкання дазваляла выкарыстаць яго, як яшчэ адзін паверх. На трэці паверх праз драўляны балкон у тарцы будынка падавалася збожжа. Збожжа падавалася грузавым ліфтом (віндай).

Частку першага паверху займаў тартак. Млын стаіць на дубовых палях. З-за паніжэння ўзроўню вады ў рацэ - палевыя фундаменты праселі. У выніку па целе млына - у каменным муры і па галоўным франтоне - утварыліся расколіны. Прычынай расколіны ў франтоне магла быць і работа вінды.

Нажаль, год будаўніцтва млына яшчэ назваць нельга. Толькі вядома, што над уваходам вісела бляха з надпісам **"Застрахавана ў 1888 годзе Паўночным таварыствам".** Гэта, мабыць, і ўсё, што вядома пра мінулае млына.

У 1959 годзе БТІ г. Ліды праводзіла інвентарызацыю будынка млына. З складзенага тэхнічнага пашпарта відаць, што ў 1959 годзе млын яшчэ выкарыстоўваўся па сваім наўпроставым прызначэнні, малолі збожжа і працаваў тартак.

З пашпарта гэтак жа відаць, што млын меў

*1. Архіў БТІ г. Ліды. Тэхнічны пашпарт вадзянога млына ў в. Дворышча.*

бутавы стужачны падмурак - 30% зносу; бутавыя сцены і перагародкі - бутавыя і бярвенныя - адсотак зносу 35%; перакрыцці - накат дошак па драўляных бэльках - знос 40%; дах чарапічны 2-х схільны - знос - 40%; падлогі дашчаныя - знос 65%; вокны простыя створкавыя і дзверы філянговыя і простыя цяслярнай работы - знос 50%; унутранае аздабленне - просты пабел - знос 35%; каменныя адмосткі зношаны да 40%. (1)

З дапаможных частак будынка паказаная прыбудова са сценамі і перагародкамі з бутавага каменю на бутавым падмурку, з дашчаным перакрыццем і чарапічным дахам. (2).



*Вадзяны млян ў Дворышчы, здымак 80-х гадоў XX ст.*



*План 1-га і 2-га паверхаў вадзянога мляна ў Дворышчы, складзены ў 1958 г.*

**Хата мельніка** па аповядах старажылаў была пабудавана на пару гадоў пазней, чым млын. Размешчана яна поблізу ад млына.

Хата пабудавана ў зрубнай тэхніцы. Бярвёны злучаныя шляхам усечкі аднаго бервяна ў іншае на вуглах зруба. Для Гарадзенскай вобласці характэрны вугал без выступаў за плоскасць зруба (чысты вугал, "ластаўчын хвост", гладкі, нямецкі). Гэты тып вугла шырока скарыстоўваўся з пачатку XX стагоддзя ў заходніх абластях Беларусі.

Фундаменты ўяўляюць сабой валуны, выкладзеныя па перыметры хаты, затым рад цэглы, на які ўкладвалі першы вянок.



*Падвод Жыжмы да млына, 2006 г.*

Дах хаты двухсхільны з усечаным франтонам. Такая форма даху, відавочна, запазычаная з нямецкай архітэктуры.

Гаварыць аб першапачатковай планіроўцы хаты немагчыма - кожны гаспадар па-свойму мяняў унутраную структуру.

У розныя часы існавала дзве хаты мельніка. Потым адна была знесена па старасці, больш

1. Архіў БТІ Лідскага Райвыканкаму. Тэхпашпарт млыны ў в. Дворышча.

2. Там жа.



*Млын, выгляд спераду, 80-я гады XX ст.*



*Млын, выгляд з тыльнага боку, 2006 г.*

новая стаіць да сёння.

З іншых гаспадарчых пабудоў сядзібы добра захаваліся да нашых дзён **ляднік, склеп** і **свіран**.

Ляднік і склеп уяўляюць з сябе складзеныя з бутавага каменю з ужываннем цэглы паўпадвальныя памяшканні, дахі якіх выступаюць над зямлёй.

Свіран размяшчаецца на супрацьлеглым (у



*Хата мельніка, здымак 60-х гадоў.*



*Ляднік.*



*Руіны склепа.*

параўнанні з іншымі будынкамі) боку, на ўсход ад сядзібнага дома.

Свіран - працяглы драўляны будынак на высокім сутарэнні з бутавага каменю. Будынак у плане прастакутны і крыты высокім паўвальмавым дахам.

Паўпадвальнае памяшканне асвятлялася 7 прастакутнымі вокнамі з жалезнымі кратамі. З заходняга бакавога фасада ў сутарэнь вялі шырокія дзверы.

У свіране маецца двое двустворкавых дзвярэй. Да адных з іх была зробленая шырокая



*Свіран з сутарэннямі, 2006 г.*



*Гумно, здымак 60-х гадоў XX ст.*

мураваная лесвіца.

У сценах свірана, на супрацьлеглым ад дзвярэй боку прарэзаны 3 маленькія акенцы.

Яшчэ дзве гаспадарчыя пабудовы колішняга фальварка Дворышча былі разабраны ў 60-80-х гадах мінулага стагоддзя. Гэта гумно і адрына.

Акрамя названых пабудоў фальварак меў кароўнік (кароўнікі), стайню (канюшню), шэраг іншых збудаванняў.



*Адрына, здымак 60-х гадоў XX ст.*

З усіх пералічаных гаспадарчых пабудоў сядзібы нам вядомая толькі дата пабудовы крухмальнага завода - 1896 год. Але ўлічваючы, што ўсе пабудовы збудаваныя ў той жа манеры, што і крухмальны завод г.зн. з бутавага каменю, не абтынкаваныя, то вельмі верагодна, што ўсе яны будаваліся ў адзін час, дзесьці з сярэдзіны да канца XIX стагоддзя.



*Парк пейзажнага тыпу ў Дворышчы.*

У другой палове XIX стагоддзя, а магчыма нават і раней у сядзібе Дворышча быў разбіты парк пейзажнага тыпу. (1)

У пачатку XX ст. маёнтку з 92 жыхарамі фальварка належалі 2728 дзесяцін зямлі.(2)

***Матэрыялы сабраў Віктар Кудла, адрэдагаваў і падрыхтаваў да друку Станіслаў Суднік.***

*(Працяг у наст. нумары.)*

1. *Фідарчук А.Т. Садова-паркавае мастацтва Беларусі. Мн. 1989. с. 164.*

2. *Для напісання гэтых раздзелаў скарыстана праца: “Кооперативный проектный институт при госстрое РБ. Заказчик: Экспериментальная база «Нива» Эскизный проект детальной планировки центра Н.П. Дворище. Объект 90-129. Историко-архивные и библиографические исследования. Гл. инженер института – В.М. Лапцевич. Гл. архитектор проекта – С.И. Борисович. Историк – Р.В. Боровой. Минск 1991.”*

# Мар’ян Баяровіч - музыка, фальклярыст, паэт, чалавек

**БАЯРОВІЧ** Мар’ян Андрэевіч нарадзіўся 1 студзеня 1933 г. у вёсцы Альгецішкі Ашмянскага р-на Гарадзенскай вобласці. Беларус. Адукацыя вышэйшая. Закончыў Беларускую акадэмію музыкі па класе баяна ў 1970 годзе. Па спецыяльнасці выкладчык. Працоўны стаж 50 гадоў.

Працоўную дзейнасць пачаў з траўня 1951 года сакратаром, а затым старшынём Ашмянскага сельскага Савета.

З верасня 1954 г. па жнівень 1958 г. вучыўся ў Гарадзенскай музпеднавучальні, а з верасня 1958 г. па студзень 1975 г. ужо працаваў выкладчыкам, загадчыкам аддзялення, намеснікам дырэктара па навучальнай рабоце Гарадзенскай музпеднавучальні.

З 1975 г. працаваў намеснікам дырэктара, з 1977 г. - дырэктарам Лідскай музнавучальні, а з лістапада 1996 г. - выкладчыкам.

У перыяд дырэктарства М. Баяровіча у музычнай навучальні праведзена значная работа



*Мар’ян Баяровіч у дзень 70-годдзя*




па выхаванні і арганізацыі педагагічнага калектыву на вырашэнне задач па падрыхтоўцы кваліфікаваных спецыялістаў для дзіцячых музычных школ і ўстаноў культуры. Пра гэта сведчаць паспяховыя выступленні на рэспубліканскіх конкурсах музычных калектываў і індывідуальнх выканаўцаў, паступленне ў вышэйшыя навучальныя ўстановы выпускнікоў навучальні. Многае зроблена па ўмацаванні матэрыяльнай базы навучальні, па стабілізацыі і ўкамплектаванні педагагічнага калектыву.

Мар’ян Баяровіч праводзіў вялікую работу па адраджэнні беларускай культуры, па пераходу навучальні на выкладанне на роднай мове, па развіцці беларускага мастацтва ў горадзе і вобласці, па выхаванні ў навучэнцаў і супрацоўнікаў навучальні нацыянальнай самасвядомасці. Дзякуючы намаганням М. А. Баяровіча, агульнанавучальныя і групавыя пазакласныя мерапрыемствы праводзіліся на роднай мове, 43 выкладчыкі з 72 вучэбна-выхаваўчую работу праводзілі на беларускай мове.

Наогул, у навучальні ўсё гаварыла аб тым, што надыянальнае адраджэнне — не пустыя




словы ў гэтых сценах. Афармленне ўсёй наглядай агітацыі было выканана на беларускай мове. Першы паверх вучэбнага корпуса афармлены тэматыкай беларускага музычнага мастацтва, у цантры якога была памешчана нацыянальная сімволіка Рэспублікі Беларусь — герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг.

М. Баяровіч актыўна ўдзельнічаў ў метадычнай і грамадскай працы. З'яўляўся старшынём Лідскага метадычнага аб'яднання выкладчыкаў дзіцячых музычных школ, старшынём Лідскага аддзялення Беларускага Саюза музычных дзеячоў, сябар Управы БСМД. Быў старшынём рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Лідскай музнавучальні, сябрам рады Лідскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны. Пастаянна ўдзельнічаў з уласнымі распрацоўкамі ў Рэспубліканскіх конкурсах метадычных і творчых работ. За працу "Прававое выхаванне ў Лідскай музнавучальні ўзнагароджаны бронзавым медалём ВДНГ СССР, а за твор "Фантазія на беларускую тэму" для баяна - Пахвальнай граматай Міністэрства культуры Беларусі.

Пры Мар'яне Баяровічы ў Лідскай музычнай навучальні была другая па велічыні арганізацыя ТБМ у горадзе. Выкладаць беларускую мову ў навучальню быў запрошаны старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Міхась Мельнік. І трэба разумець, што навучэнцы праходзілі цудоўную школу патрыятызму, любові да сваёй Бацькаўшчыны, любові да беларускай мовы і беларускай культуры. Навучальня ўзяла неафіцыйнае шэфства над помнікам Францішку Скарыну, і на кожнае свята да помніка клаліся кветкі ад навучэнцаў музнавучальні.

Абвесткі і іншыя дакументы Лідскіх гарадскіх арганізацый ТБМ і БНФ "Адраджэньне" ў 90-я гады XX стагоддзя размнажаліся не дзенебудзь, а на ксераксе музнавучальні, з ведама дырэктара Мар'яна Баяровіча.

М. Баяровіч выдаў два зборнікі: "Зборнік апрацовак беларускіх народных песень і танцаў, твораў беларускіх кампазітараў для двухраднага храматычнага гармоніка, баяна і акардэона ў дапамогу выкладчыкам пачатковага, сярэдняга і вышэйшага звяна музычнай адукацыі" (Мінск, Беларускі кнігазбор, 1998), "170 беларускіх народных песень Гродзеншчыны" (Гродна, Ратуша, 2002), якія на V Рэспубліканскім аглядзе метадычнай і творчай работы выкладчыкаў навучальных установ мастацтва і культуры ўзнагароджаны Граматай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Значную работу па развіцці і прапагандзе нацыянальнай культуры праводзілі музычныя калектывы навучальні: жаночы народны фальклорны хор, беларускі народны аркестр, рэпертуар якіх складаўся з беларускай народнай музыкі і твораў беларускіх кампазітараў. Канцэртныя выступленні гэтых калектываў былі вядомы не толькі ў вобласці, але і за мяжой.

Мар'ян Баяровіч глыбока ўсведамляў грамадзянскую адказнасць за лёс сваёй Бацькаўшчыны і яе духоўны патэнцыял. Часта выступаў у сродках масавай інфармацыі рэспубліканскага, абласнога і мясцовага значэння па розных пытаннях адраджэння нацыянальнай культуры (перыядычны друк, радыё, тэлебачанне).

Пастановай Прэзідыюма Гарадзенскага абласнога савета ўзнагароджаны Ганаровай граматай за шматгадовую работу па адраджэнні беларускай нацыянальнай культуры і падрыхтоўку музычных кадраў.

За поспехі ў працы ўзнагароджаны:

1. Граматай і медалём Вярхоўнага Савета БССР (1960 г.).

2. Медалём "За доблесную працу ў азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння У.І. Леніна" (1970 г.).

3. Нагрудным знакам "Выдатнік народнай асветы" (1972 г.).

4. Бронзавым медалём ВДНГ СССР "За дасягнутыя поспехі ў развіцці народнай гаспадаркі СССР" (1979 г.).

5. Медалём "Ветэран працы" (1990 г.).

Пахавалі Мар'яна Баяровіча 21 жніўня 2006 года на Лідскіх могілках па Крупаўскай дарозе.

***Станіслаў Суднік.***

*Мар’ян Баяровіч*

## Паэма пра гузік

- Гузік ты, мой гузік,
Ад маіх штаноў.
Ці згубіўся дзе ты,
Ці знайшоўся зноў?

*- Паміж намі ўсё прапала,*
*Я цяпер з табой на “ты”,*
*Я цярпеў, павер, нямала –*
*Самай рознай дураты...*

- Не бяда, што ён згубіўся,
Гэты гузік ад штаноў.
Куплю новы сабе гузік
І прышыю зноў.

Хай трымаецца трывала
Месца ён свайго,
Каб нішто не адарвала
Ад штаноў яго.

Як дырэктарам я стану,
Гузік не згублю,
Буду лепшыя мець справы,
Не раўня яму.

Планы, кадры, мэты, мары,
Справаздачаў калаўрот,
У жыцці тваім, мой гузік,
Будзе паварот.

Гузік той на старым месцы
Прыкляпаў, як змог,
Каб ад д’ябальскай спакусы
Устрымаць ён мог.

Цяжка жыць на свеце стала
Гузіку таму,
Бо нячыстае той сілы
Не стрымаць яму.

Тае сілы, пэўна, хопіць
Гузікаў на пяць,
Аднаму ж яму, бядняжцы,
Дзе тут устаяць.

Так прамыкаў бедалага
Тыдняў, можа, пяць,
Але сілы паступова
Сталі убываць.

То было дажджлівым летам,
Шмат ліло вады,
На работу стаў збірацца
Ранкам я тады.

Ўстаў, памыўся, прычасаўся,
Гальштук начапіў,
За штаны свае узяўся –
І ваўком завыў:

- Гузік. Ты, пракляты злыдзень.
Так жа ж, тваю маць,
Мне на педсавеце сёння
Трэба выступаць.

Гаварыць пра планы, мэты,
Мараў калаўрот,
Дзе ж з табою, праходзімцам,
Зробіш паварот?!

Гузік жа сабе тым часам
Справу туга знаў.
Закаціўся пад канапу
І цішком ляжаў.

Так ляжыць сабе тайком,
Думае, гадае,
Як яму надалей жыць,
З сабой разважае:

*- І чаго ты раскрычаўся,*
*Лаешся па маме,*
*Не хачу ў твае штаны,*
*Сам трымай рукамі.*

*Мне абрыдла гэта ўсё,*
*Выступай, як хочаш,*
*Сам так лямку пацягні,*
*Дык жыць не захочаш!*

*Паміж намі ўсё прапала,*
*Жаль цяпер без толку,*
*Дружбу нашу не ўтрымала,*
*Нітка ў адну столку.*

...Так хадзіў я без штаноў,
Сябры дарагія.
На работу (што ж рабіць?!)
Апранаў другія.

Дома ж без штаноў хадзіў,
Цёрся каля жонкі.
І, як вынік, вось, сябры,
Мыю я пялёнкі.

## У лазні

Душа калышацца над парай,
Аж з кожнай клеткі пот імчыць...
І, ахапіўшы сэрца жарам,
З бярозкі венік шапаціць...

Прыходзіш стомлены, знямоглы –
Бадзёры выйдзеш, малады,
Бо ўсе хваробы выйдуць з потам:
Рэцэпт народны, дзедавы.

Звычайна потым піва вып’еш –
Дык сэрца песцю запяе,
Аркестрам кроў зайграе ў жылах –
Імпэт, імпэт мне надае!

## Цуд прыроды

Ліда – Наваградак – Свіцязь –
Гэта вельмі дзіўны шлях.
Там прырода дорыць цуды,
Ды такія – проста “ах!”
Дуб стаіць у тры абхваты
Ля дарогі, не ў бары,
Глянеш ўверх: сасонка плача –
Вельмі ж сціснуў дуб стары.
Ствол адзін, а прыжыліся
Дуб з сасною навякі:
“Не, не плача тут сасонка, -
Шэпчуць нам беразнякі: -
Гэта спеў яе прывольны,
Спеў ад шчасця і цяпла,
Спеў пра дуба – велікана,
Спеў, каб музыка жыла!”
Зноў спяшаюся з ахвотай
На цудоўную зямлю;
І з ясенінскай пяшчотай
Я бярозку абдыму.

## Жанчыне

***Раманс-прызнанне***

Я люблю цябе так, што жыву, як у сне.
Тваё імя – мне ранкам світанне.
Сярод белага дня і ў начной цішыні
Паўтараю я гэта прызнанне.

Кожны дзень і цяпер цябе бачыць хачу,
Зразумей, што сапраўднае гэта жаданне.
Пазвані – я прыйду, прыбягу, прылячу,
Ты мне – свежага ветру дыханне.

Ты мой першы прамень пасля доўгіх начэй,
Ясны дзень пасля цемры мраістай,
Водар летніх садоў і крынічны ручэй,
Дзе вада з цяплынёю празрыстай.

Я цяпло тваіх рук зберагу назаўжды,
Захаваю салодкасць пяшчоты падзеяй.
Ты мне вельмі патрэбна. Заставайся і будзь
Маёй Верай, Любоўю, Надзеяй!

## А куды мы ідзём...

Не даклічашся болей, не кліч,
Бо на сэрцы імжа і завея,
Лепш мне чыстых пачуццяў пазыч,
Я свае без кахання развеяў.

Я цяпер прад табою раб,
Мне мінулае ўспомніць сорам,
І чаго я цягаўся да баб,
Да старых, што гадоў за сорак.

Сэрца б горкіх не ведала ран,
І не быў бы ў роздум закуты,
Я навек бы забыў рэстаран,
І крыштальнасці водар атрутны.

Я б гарэлкі ре браў бы і ў рот,
Але дзе там...?!
Калі смага і стома,
Бо што-дзень у жыцці паварот,
А куды мы ідзём – невядома!

## Тост за жанчын

Калі я планета,
Тады жанчына неба нада мною,
Якая вечна корміць шар зямны
Пяшчотай і цеплынёй сваёю.

А калі сам я – неба,
Яна ў ім Сонца і пачатак усяго
Рухомага, гучнага і жывога,
Таго, што тычыцца яго.

Калі крынічка я,
Яна вада бурлівая ў горных высях.
Відовішча няма смутней,
Калі ручэй маўчыць – ён высах!

Калі арол я,
Яна патрэбная ў маім палёце.
Як спадарожніца мая,
Як крылы ў дружным узлёце.

Хачу заўжды, каб было неба,
Хачу, каб сонца кожны дзень свяціла,
Хачу, каб сэрца маладзіла
Бурлівая крынічная вада.

Хачу, каб узляцеў арол туды,
Дзе пяруны з маланкаю бяруць пачын,
А гэта значыць,
Што тост мой – за жанчын!

***Падрыхтаваў да друку Міхась Мельнік***.

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




У выдавецтве АСТ, Масква і “Харвест”, г. Менск, выйшла кніга А. Е. Тараса “Войны Московской Руси с Великим Княжеством Литовским и Речью Посполитой в XIV-XVII веках”, 800 ст.
Наклад 3000 асобнікаў.




У выдавецтве “Беллітфонд”, г. Менск, выйшла кніга Святланы Белай “Яраслаўль у лёсе Максіма Багдановіча”, 194 ст. Наклад 300 асобнікаў.



У выдавецтве “Беларуская навука”, г. Менск, выйшаў 26 том “Гістарычнага слоўніка беларуска мовы”, 444 ст.
Наклад 500 асобнікаў.




У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшаў 2-гі том факсімільнага выдання працы Яўхіма Карскага “Беларусы”, 456 ст.
Наклад 2000 асобнікаў.



У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшаў 3-ці том энцыклапеды “Гарады і вёскі Беларусі”- “Брэсцкая вобласць”, кніга I, 528 ст.
Наклад 4000 асобнікаў.




У выдавецтве “Кнігазбор” г. Менск, выйшаў раман Вольгі Іпатавай “Апошнія ахвяры свяшчэннага дуба”. 216 ст.
Наклад 1000 асобнікаў.



**Вежа палаца Пуслоўскіх у Дворышчы.** *Вясна 2006 г. Здымак С. Судніка.*